КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## А ці праўда браканьер не разгледзеў, што за звер?

У Асіповіцкім раёне, маючы ліцэнзію на адстрэл зайца, паляўнічы застрэліў ласяў.

Злавілі ў лесе браканьера –
Ласяў забіў.
Сваё ружжо
Ён зачахліць паспеў і звера
Дамоў хацеў завезці ўжо.
У злыдня выгляд ваяўнічы,
На егераў выплюхваў злосць:
– Да я сумленны паляўнічы –
Ліцэнзія ў кішэні ёсць!
І праўда ён дастаў паперу,
На ёй і подпіс, і пячаць.
Пярэчыць егер браканьеру:
– Ты толькі ў зайца мог страляць!
– Так і было! Чакаў на ўзлеску,
Што заяц выскачыць вось-вось.
І абудзіўся лес ад трэску.
Бабах! Гляджу – а гэта лось…

* * *

Прыдумаць могуць браканьеры!
Але што так было яно,
Я нават даць гатовы веры,
Хаця скажу пры тым адно:
Прыплод звяроў не павялічым,
І нават знікне фаўна ўся,
Калі не можа паляўнічы
Адрозніць зайца ад лася.

## Хіба ж, скажыце, гэта дзіва, што да жыцця вяртае піва?

У В'етнаме дактары выратавалі пацыента ад смерці з-за алкагольнага атручэння, уліўшы ў яго амаль пяць літраў піва.

В'етнамец многа ўзяў на грудзі,
Вось-вось апрудзнее ён.
(Любому з нас пагана будзе,
Як п'еш атруту-самагон.)
Радзя занядзее ад скрухі,
Калі сканае без пары.
Таму зляцеліся, як мухі,
З усёй бальніцы дактары.
Хоць прымянілі многа лекаў,
Хоць варажылі так і сяк,
Ды мужыку не стала лепей,
Як нежывы, ляжаў бядак.
Відаць, надзейна смерць схапіла –
Ужо і пульс, здаецца, знік.
І раптам…
– Людзі, дайце піва! –
Сасмягла прастагнаў мужык. –
Бо ў пекле не нальюць жа чэрці, –
Жаданне патлумачыў ён.
Калі ўжо чалавек пры смерці,
Яго жаданне – як закон.
Ганца ўрачы пaслалі быстра
Да недалёкага ларка.
І піва – цэлая каністра! –
Паднесена да бедака.
Ад радасці душа трымцела,
Як стаў «амброзію» каўтаць.
Бы ў бензабак, заліў у цела
Аж паўканістры – літраў пяць!
І ўжо без нечай дапамогі,
Здаровы знешне і ўнутры,
Падняўся ён і стаў на ногі.
Даліся дзіву дактары
І пачуваліся шчасліва
Ад зробленага адкрыцця:
Празнае свет увесь, што піва
Людзей вяртае з небыцця.

* * *

Хіба, скажыце, гэта дзіва?
Ды да жыцця спакон вякоў
Вяртае ў Беларусі піва
Усіх сасмяглых мужыкоў!

## Не прабіўся, а ўсплыў

Прабіўся, лічыць ён, наверх –
І гэта ўзяў сабе ў актыў,
І ганарыцца тым цяпер.
На самай справе ён усплыў…

## На розуме і ўнутры

Не смакчу я бырла рознага,
Але ведаю, сябры:
Што на розуме ў цвярозага,
Тое ў п'янага ўнутры!

## Ці тое, ці другое

Калі прыгожанькіх дзяўчат
На вуліцы задужа шмат –
Лічы, вясна ступае звонка!
Або сышла к другому жонка…

## Таблеткі

– Лячыцца вам патрэбна гэтак:
Па тры таблеткі кожны дзень.
– Не буду! Хутка ад таблетак
Заканчваецца бюджэтэнь…

## Гора

Аб'яву цікавую ўчора
На сайце знаёмстваў знайшоў:
«Разбіў я бутэльку на гора,
Дык новых шукаю сяброў…»

## Плявок

З дзясятага паверха
Плюнуў хтосьці.
А быў саракаградусны мароз.
Дзяцюк унізе
Матам крыў ад злосці,
Бо рану
Той плявок яму нанёс.

ПРИНЦИПИАЛЬНАЯ ПОЗИЦИЯ

# Не оплакивайте коррупционеров

Считай, нет той недели, чтобы правоохранительные органы не схватили за руку того или иного взяточника. Похоже, что суды завалены уголовными делами коррупционеров.

И прощения, помилования им, на мой взгляд, не должно быть. А потому я не понимаю, когда сердобольные друзья взяточников направо и налево дают интервью, заявляя, насколько те высокоморальны: мол, зря суды отправляют их в тюрьму. Человек, занимая руководящую должность, находясь на государственной службе, стремясь обогатиться, фактически предает то же государство – и, видите ли, он высокоморален. И, заметьте, некоторые сайты тиражируют эту чушь, вышибая слезу у обывателей. При этом подают факты таким образом, что тот, кто оказался на скамье подсудимых, к чьим рукам незаконно прилипли сотни тысяч долларов, будто вовсе не преступник, а очень заслуженный человек.

Нет, взяточник есть взяточник! Во всем мире таким дают немаленькие сроки заключения. И Беларусь не должна быть исключением. А тем друзьям коррупционеров, которые публично их оплакивают, надеясь на президентское помилование, я даю один совет: если вы их так жалеете, почаще носите им передачи в места заключения.

**Вадим ЖОВНЕРЧИК.**
*Гродно.*

ТАК СЧИТАЮ…

# Минимальная пенсия должна быть на уровне 55 процентов от среднего заработка

Внимательно слежу за разными публикациями в «Народной Воле». Поддерживаю автора одной из статей, который считает, что с учетом всех жизненных реалий минимальная пенсия в стране должна быть на уровне 55 процентов от среднего заработка, как это имеет место в ряде европейских государств. Если у нас не хватает денег в пенсионном фонде, то нужно доплачивать из бюджета. В конце концов давайте прекратим помпезно отмечать всякие сомнительные юбилеи (100-летие комсомола, Министерства сельского хозяйства и т.д.), устраивать всякие фестивали, строить дворцы, которые и за 50 лет не окупятся, проводить военные парады, бряцая оружием…

Если бы поднялись пенсии, то, я уверен, кардинально изменилась бы ситуация на рынке труда. Почему сейчас очень многие пенсионеры стараются где-нибудь пристроиться? Да потому, что не могут свести концы с концами, получая мизерную пенсию. Будь она выше – конечно же, отдыхали б, а свободные рабочие места достались бы молодым, тем, кому нужно зарабатывать трудовой стаж, а не числиться в «дармоедах».

И еще один плюс оказался бы при нормальном увеличении минимального размера пенсий. В настоящее время очень многие уезжают на заработки в соседние и более далекие страны: мол, нет смысла думать о пенсии, если она будет крохотной, на нее все равно не проживешь. Так вот если бы у людей была уверенность, что в старости их государство не кинет, разве они бросали бы свою страну и уезжали искать лучшую долю за границей?

**Георгий СЕМЕНКОВ.**
*Минский район.*

УЛЫБКА ХУДОЖНИКА



Рисунок Ирины ПУСТОВАЛОВОЙ.

# Минчанка обокрала своего 66-летнего сожителя и уехала с подругой на отдых в Италию

Подробности сообщает ГУВД Мингорисполкома. В мае 2018 года 38-летняя минчанка похитила 5100 долларов у 66-летнего пенсионера, с которым сожительствовала. Идею минчанке подкинула ее 45-летняя подруга. На сбережения пенсионера женщины съездили отдохнуть в Италию.

Когда мужчина обнаружил пропажу, дамочки отказались возвращать сбережения. Теперь они задержаны и находятся в ИВС.

В отношении подозреваемых возбуждено уголовное дело по ч.3 ст.205 (кража). Санкция этой части статьи предусматривает максимальное наказание в виде лишения свободы сроком до семи лет с конфискацией либо без конфискации имущества.

ЛІСТ АБУРЭННЯ

# Пасля тэхагляду застаўся без капейкі…

Даўным-даўно я з вялікай напругай сабраў грошы, каб купіць патрыманую машыну. Хутка пачнецца дачны сезон, і на мінулым тыдні вырашыў прайсці чарговы тэхагляд. Не разлічваў, што ён пакіне мяне без капейкі ў кішэні.



Спачатку наведаўся ў банк. Падаю тэхнічны пашпарт і пытаюся: «Якая сёння сума дарожнага падатку?» Касірша палічыла, колькі гадоў маёй машыне, звярнула ўвагу на вагу, магутнасць рухавіка і сказала: «Выкладвайце 204 рублі». Нічога сабе, войкнуў я, але выйсця няма, трэба плаціць…

Не менш здзівіўся я, калі на станцыі тэхнічнага агляду сказалі: «Спачатку ўнясіце ў касу 42 рублі і толькі потым будзем афармляць дакументы для праходжання тэхагляду». Як бачыце, мне давялося раскашэліцца амаль на 250 рублёў! А пенсія ў мяне 320. Купіў лекі – і нічога не засталося. А наступную пенсію прынясуць толькі праз тры тыдні. Як працягнуць? Хочаш не хочаш, а трэба ісці да суседа пазычаць…

Сумна на душы, вельмі сумна. Абдзіраe дзяржава бедных пенсіянераў, як ліпку. Тым, хто яшчэ працуе і мае добрыя заробкі, 250 рублёў – можа, і невялікія грошы, а вось для такіх, як я, гэта сума, пазбавіўшыся якой, трапляеш у поўную галечу.

З экрана тэлевізара нам штодзень кажуць: мы жывём у краіне, дзе чалавек сацыяльна абаронены з усіх бакоў. Хлусня ды і толькі! Пра якую абарону можна талдычыць, калі я пасля аплаты дарожнага падатку і праходжання тэхагляду застаўся, лічы, без капейкі за душой?

Ведаю, у многіх краінах у пенсіянераў бясплатны праезд у грамадскім транспарце, ёсць зніжкі на аплату жыллёва-камунальных паслуг, іншыя бонусы. А ў нас? Здаецца, усё, што можна было адабраць у старых людзей – адабралі. Праўда, гэта тычыцца не ўсіх ветэранаў. Былыя вайскоўцы, тыя, хто служыў у органах дзяржаўнай бяспекі, пракуратуры, міліцыі, адчуваюць сябе нябляга. А чаму ўлады кінулі нас, людзей з жабрацкімі пенсіямі? Няўжо і напярэдадні парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў на нас ніхто не зверне ўвагі?

**Максім ВЯЛІЧКА, ветэран працы, былы работнік лёгкай прамысловасці.**

ТАК ДУМАЮ!

# …І нас стануць больш паважаць у свеце

У «Народнай Волі» за 11 снежня 2018 года прачытаў артыкул «Быць беларусамі». Поўнасцю згодны з яго аўтарам і ўдзячны за тое, што ён не толькі разважае пра важнасць вяртання беларускасці, але і многа робіць для гэтага. На жаль, такіх прыкладаў мала. А тэма вельмі важная. Справа не толькі ў тым, на якой мове мы размаўляем. Спачатку ідзе асіміляцыя, а затым злучэнне з імперый, згуба самастойнасці, незалежнасці. Невыпадкова носьбіты рускай мовы ў саюзных рэспубліках раней (а ў Беларусі і цяпер) агрэсіўна ставіліся да спроб пашырэння ўжывання мовы краіны іх пражывання.

У адным з гродзенскіх супермаркетаў касіры сталі размаўляць з кліентамі па-беларуску. Вельмі добры прыклад для другіх. Дык вось адна знаёмая касірка распавяла мне пра стаўленне да гэтага пакупнікоў. Большасць ніяк не рэагавалі. Другія, іх даволі многа, спрабавалі з розным поспехам адказваць, працягнуць дыялог таксама па-беларуску. Аднак знаходзіліся і тыя, у каго беларуская мова выклікала прыступ агрэсіі. Абзывалі касіраў бандэраўцамі і другімі ў іх разуменні абразлівымі словамі. Пагражалі паскардзіцца «вышэй». Лёгка здагадацца, што гэта былі за людзі. Часцей за ўсё так успрымаюць мову, родную для мясцовага насельніцтва, прыезджыя расіяне. Хаця, на вялікі жаль, і сярод грамадзян з беларускім пашпартам знойдуцца ненавіснікі роднай мовы.

Народ, які згубіў сваю адметнасць, сваю мову, лёгка далучыць да імперыі. Па гэтай прычыне царская Расія пасля далучэння да яе нашых і польскіх земляў напрыканцы XVIII стагоддзя намагалася як мага хутчэй асіміляваць насельніцтва. Паслала ў захопленыя рэгіёны сваіх губернатараў, чыноўнікаў, настаўнікаў, папоў. Апошнія, за рэдкім выключэннем, да гэтай пары не хочуць прызнаваць мову тых людзей, для якіх яны праводзяць набажэнствы. І гэта не дробязь, гэта палітыка Масквы і маскоўскага патрыярха.

Нашы суседзі палякі апынуліся ў аднолькавых з намі ўмовах акупацыі Расіяй. Аднак яны не паддаліся асіміляцыі, захавалі сваю мову і на пачатку XX стагоддзя аб'ядналіся, у змаганні вярнулі незалежнасць сваёй краіны. Пасля Другой сусветнай вайны яны зноў трапілі пад кіраўніцтва Масквы. Але Бог над імі злітаваўся. 30 гадоў таму савецкая імперыя распалася, Польшча зноў атрымала волю, засталася без «дапамогі» з усходу і скарысталася гэтым спаўна, хуткімі тэмпамі пайшла наперад. Згадзіцеся, усенародная любоў да сваёй мовы, да сваёй краіны адыграла ў гэтай гісторыі вельмі важную, рашаючую ролю. Напрошваецца высновa: каб рухацца наперад, трэба згуртавацца, аб'яднацца. І дапаможа гэта зрабіць наша спрадвечная родная мова.

Вельмі радуе тое, што немалая частка нашай найбольш адукаванай моладзі пачала размаўляць па-беларуску. Хоць не ўсё спрыяе гэтаму. Маленькі факт: калі я вучыўся ў пачатковай школе (50-я гады мінулага стагоддзя), падручнікі называліся «Родная мова», «Родная літаратура». А цяпер? Слова «родная» выкінута з назваў падручнікаў. Камусьці з русіфікатараў яно муляе.

І яшчэ, мяне вельмі крыўдзяць заявы некаторых людзей, у тым ліку і начальства, што беларусы і рускія – гэта адзін народ. Ім трэба пачытаць гісторыю. Так, мы славяне, але славянскіх народаў і краін у Еўропе больш за дзясятак: Польшча, Чэхія, Славакія, Славенія, Сербія, Балгарыя і іншыя. Наша краіна калісьці называлася Вялікае Княства Літоўскае і рэгулярна ваявала з Маскоўскім княствам, якое несла агрэсію на нашу тэрыторыю. Потым нашы землі захапіла Расійская імперыя і стала асіміляваць Беларусь. На жаль, гэта ў яе атрымалася. Вось Польшча, Літва, Украіна, Малдова змаглі захаваць сваю мову. Праўда, дзве апошнія і цяпер пакутуюць ад імперскіх памкненняў Масквы. Атрымліваецца, што тое, на якой мове мы размаўляем, не проста асабістая справа, а справа палітычная.

Я прапаную тым, хто любіць нашу родную прыгожую краіну Беларусь, патроху, крок за крокам, самім рухацца да беларускай мовы. Дапамогі ў гэтым накірунку ад цяперашняга кіраўніцтва краіны мы, магчыма, не дачакаемся. Галоўнае, каб у нас самiх з'явілася жаданне карыстацца родным словам. Камусьці трэба падвучыцца, а камусьці проста ўспомніць школьныя гады. І тады загучыць у нашых хатах, кватэрах, школах, на вуліцах мілагучная, прыгожая родная мова. Дарэчы, яна вельмі падабаецца нашым добразычлівым гасцям. Нас стануць больш паважаць за мяжой як самастойную нацыю.

У 1970 годзе, калі я вучыўся ў Гродзенскім сельскагаспадарчым інстытуце, на вытворчую практыку мяне і яшчэ адну студэнтку накіравалі ў Малдаўскую ССР. Пры першым знаёмстве ў Рэспубліканскай станцыі аховы раслін начальнік, рускі па нацыянальнасці, нам сказаў, што малдаване малапісьменныя, жывуць у брудных хатах і гэтак далей. Прабыўшы там 5 месяцаў, я гэтага не заўважыў. За кароткі тэрмін майго знаходжання я трошкі навучыўся размаўляць па-малдаўску. А многія рускія за 10–20 гадоў так і не асвоілі малдаўскую мову і ўвогуле зняважліва ставіліся да самiх жыхароў і іх мовы. Яны лічылі сябе вялікаросамі, вышэй за іншых. Мне давялося пабачыць іх рэакцыю ў перыяд зломy СССР і фарміравання незалежнай Малдовы. Трэба сказаць, што малдаване больш эмацыянальныя за нас. Калі ішлі лёсавызначальныя пасяджэнні Вярхоўнага Савета рэспублікі, многія грамадзяне сыходзілі з працы дамоў, каб глядзець па тэлевізары, што там вырашаюць. Пад такім кантролем былі прыняты даволі рэзкія законы па прыярытэце малдаўскай мовы. Вядома, гэта не спадабалася рускім. Іх рэакцыя была такая: «Якія дрэнныя малдаване! Калі пасля вайны рускія будавалі заводы, прысылалі спецыялістаў, тады мы былі добрыя, а цяпер або вучы іх мову, або працуй там, дзе не трэба добра ведаць мову, або вяртайся ў Расію». На гэта я ім іранічна адказаў: «Усім дапамагла Расія. Адным фінам не паспелі дапамагчы – яны аддзяліліся. Дык да гэтай пары ў лапцях ходзяць і дзякуюць вам». Калі б размова адбывалася цяпер, можна было б дадаць, што такія краіны, як Польшча, Чэхія, Літва і іншыя пасля таго, як засталіся без дапамогі Расіі, рэзка рванулі ў развіцці наперад.

Чаму дапамога Расіі нашай і іншым краінам не прыводзіць да адметнага росту, да прагрэсу? І чаму Пуцін і яго адмадумцы мараць вярнуць пад свой кантроль былыя саюзныя рэспублікі? Можа, маюць вельмі многа рэсурсаў і хочуць нам дапамагаць? У былыя часы пераможцы прымушалі пераможаных плаціць даніну, забіралі людзей у палон. Калісьці маскоўскія князі так паступалі і з нашымі продкамі. Цяпер Пуцін і другія скардзяцца, што дапамога Беларусі абыходзіцца ім у дзясяткі мільярдаў долараў. Дык нашто мы ім? Нашто яны ваююць на ўсходзе Украіны? Сумуюць па згубленай імперыі і хочуць вярнуць пад сваё кіраўніцтва былыя калоніі? Гісторыя ведае шмат прыкладаў распаду імперый. Яны змірыліся з гэтым і спакойна працягвалі сваё развіццё і будавалі нармальны дабрабыт сваіх грамадзян.

Расія разам з дапамогай навязвае іншым краінам свой неэфектыўны лад жыцця. Адсутнасць дэмакратыі, панаванне алігархічных кланаў, карупцыя, алкагалізм – вось што губіць Расію.

Цікавы прыклад Германіі, якая некалі хацела многа, а згубіла нават свае землі. Але ж яна зрабіла правільныя высновы, стала ўкладваць грошы і таленты ў мірную справу, вырабляць «Мерседэсы» і іншую якасную тэхніку і выйшла па ўзроўні эканомікі на чацвёртае месца ў свеце. Як сказаў адзін немец, цяпер не трэба заваёўваць і везці ў краіну палонных, яны самі едуць – не адбіцца.

Што перашкаджае сённяшняй Расіі памяняць свае погляды на жыццё, цяжка сказаць. Краіна мае багатыя прыродныя рэсурсы, шмат добрай, прыдатнай для сельскай гаспадаркі зямлі, таленавітых людзей. А жывуць, асабліва ў рэгіёнах, вельмі і вельмі бедна. Можа, памылковая формула, якую некалькі разоў выказваў у шоу У.Салаўёва прафесар Я.Сатаноўскі: «Хай нас не паважаюць, абы баяліся». Вялікія грошы і лепшыя таленты накіроўваюць на назапашванне зброі, вынаходства сродкаў для больш эфектыўнага забойства людзей. Хочуць параўнацца з ЗША хаця б у вырабе зброі. Хочуць павялічыць за лік былых рэспублік сваю тэрыторыю, колькасць насельніцтва. А трэба было б пачаць з дзяржаўнага будаўніцтва, з дэмакратычных асноў.

Вядома, ёсць многа іншых прычын таго, што Расія не хоча адпускаць у вольны шлях былыя тэрыторыі СССР. І ў гэтым плане яна важную ролю адводзіць «рускаму міру». Грамадзяне, размаўляючы на роднай мове, наносяць шкоду іх планам. Той, хто любіць нашу мову і ёю карыстаецца, кладзе важкую цаглiну ў будаўніцтва сапраўднай незалежнасці і шчаслівую будучыню краіны.

**Васілій МІХАЛЬЧЫК, дацэнт, кандыдат сельскагаспадарчых навук.**
*Гродна.*




# Татьяна ЛЕМЕШЕВСКАЯ: «Просто крылья вырастают, когда все хорошо и у мамы, и у новорожденного…»

*«Быть счастливым счастьем других – вот земной идеал жизни всякого, кто избирает врачебную профессию».*
Академик Николай Пирогов

***Татьяна Лемешевская** – акушер-гинеколог, кандидат медицинских наук, научный сотрудник лаборатории медицинской генетики и мониторинга врожденных пороков развития Республиканского научно-практического центра «Мать и дитя».*

*За разработку и внедрение новых методов диагностики и медицинской профилактики, направленных на сохранение здоровья женщины, недавно ей вручена международная премия «Содружество дебютов» государств-участников СНГ.*

*Татьяна – победитель многих международных конкурсов научных работ в области репродуктивной медицины, обладатель медали имени Д.О.Отта, она активно публикуется в рейтинговых отечественных и зарубежных научных журналах, является членом Международного общества ультразвуковой диагностики в акушерстве и гинекологии (ISUOG).*

### Медицина и философия

**– Скажите, что явилось главным для вас в выборе профессии?**

– Медицину я выбрала совершенно сознательно в старших классах гимназии – мне очень хотелось именно помогать людям! Раньше собиралась быть учительницей, как и моя мама, но неожиданно серьезно увлеклась химией и биологией, была победительницей городских и республиканских этапов школьных олимпиад по этим предметам. Поступая в медицинский, я сдавала всего один экзамен – биологию.

В юности многие из нас максималисты, и мне было не важно, каким по профилю быть врачом, главное – прийти на помощь человеку, облегчить его страдания и вернуть здоровье. Но, будучи уже студенткой медуниверситета, я впервые присутствовала при родах и увидела рождение маленького человечка. Это побудило меня выбрать специализацию «акушер-гинеколог».

Природа устроена очень мудро и сложно. Новая жизнь – здесь так много таинственного и в момент зарождения, и при вынашивании. А слышать первый крик младенца всегда так волнующе! Это яркие эмоции и бесценные моменты. Просто крылья счастья вырастают, когда все хорошо и у мамы, и у новорожденного. Мгновенно, в одну секунду, проходит любая усталость – только радость внутри.

**– Можете ли вы сказать, сколько малышей появилось на свет при вашем участии?**

– Честно говоря, не думала об этих цифрах. За сутки бывает 5–8, а иногда и 20 родов, это же процесс физиологический, здесь невозможно что-то планировать. Конечно, всегда помнятся первые принятые тобой роды и первая самостоятельно выполненная операция кесарева сечения.

Мой стаж в акушерстве уже более 10 лет, и я могу сказать одно: рождение нового человека всегда великая тайна. Не бывает одинаковых или универсальных схем, невозможно предугадать, даже если это самые обычные роды после здоровой беременности, как они будут происходить, как поведет себя ребеночек. Этим акушерство интересно, но этим и коварно. Правильно оценить ситуацию помогают не только опыт, знания, мгновенная реакция, но и интуиция врача. Я сказала бы, что акушерство – это тоже искусство!

### Путь в науку

**– Татьяна, а как и почему вы пришли в науку?**

– Наука мне нравилась всегда, этому прежде всего поспособствовала моя мама. Она учитель-филолог, как говорят, педагог от Бога. Я с детства видела, как вдохновенно она работает, с каким энтузиазмом вовлекает детей в свой предмет, старается заинтересовать всех и каждого. Такое отношение меня восхищает по сей день. Многие ее ученики успешно выступают в предметных олимпиадах, лингвистических и литературных конкурсах. Мама награждена нагрудным знаком «Отличник образования Республики Беларусь». Разве это не пример для меня? Кстати, и мой папа тоже отличник – заслуженный работник транспорта Республики Беларусь. Поэтому неудивительно, что с детства у меня сформировалось особое, творческое отношение к профессии, потребность углубленно заниматься предметом, который является моим «хлебом насущным».

Первый практический опыт в акушерстве и гинекологии я получила в городской женской консультации и родильном отделении одной из минских больниц. А уже имея некоторую клиническую практику, решила заняться научной деятельностью. С этой целью сознательно выбрала для поступления аспирантуру, а не клиническую ординатуру.

**– Вы к моменту поступления в аспирантуру имели семью, маленького ребенка. Не было сомнений или неуверенности, что не справитесь?**

– Мой муж поддержал меня в моем решении, и я очень благодарна ему за эту поддержку и за помощь в быту. Честно говоря, наука является нашей общей семейной ценностью, наш 6-летний сын свято убежден, что профессии мамы и папы – «доктор и компьютерщик». Ему привычно видеть родителей поздними вечерами у монитора, на котором схемы, буквы и цифры. Сферы нашей научной деятельности близки: мой муж Петр Лемешевский – кандидат ветеринарных наук, занимается ветеринарным акушерством и биотехникой репродукции животных в СООО «Бел-Симекс».


Татьяна Лемешевская на награждении медалью Д.Отта, в центре – академик РАН Э.К.Айламазян.

**Факты**

*Республика Беларусь сегодня входит в первую десятку стран мира с самым низким уровнем смертности новорожденных, эта информация содержится в докладе Детского фонда ООН (ЮНИСЕФ). Согласно исследованиям, в нашей стране на одну тысячу новорожденных умирает 1,5 ребенка. Такой же показатель детской смертности в Норвегии и Южной Корее – и это самый низкий показатель среди стран СНГ. Заслуга белорусских медиков в этом несомненна.*

**– Сегодня у девушек примером для подражания является образ успешной деловой женщины, а не образ матери. Статистика сообщает, что вообще не хотят иметь детей около 7 процентов белорусок…**

– Это современная урбанистическая тенденция, когда на первом месте у женщины стоит работа, карьера, а уже потом дети. И да, рожают сейчас в более позднем возрасте, по этим показателям мы тоже приближаемся к европейским меркам. В Беларуси в прошлом году средний возраст женщины при рождении первого ребенка был 27,6 года.

Но как врач-акушер скажу: первые роды желательны до 30 лет, чтобы все прошло без осложнений для ребенка и для матери. Не стоит отодвигать появление детей на более поздний срок – природу не обманешь, ведь женщина создана прежде всего для продолжения жизни, для рождения будущих здоровых поколений. С возрастом у женщины количество хромосомных заболеваний и осложнений увеличивается; к сожалению, возраст – антагонист качества потомства.

**– Центр «Мать и дитя», где вы работаете, – главное учреждение Беларуси в области охраны материнства и детства. Это для вас больше гордость или ответственность?**

– И гордость, и ответственность. Наш центр высшего, 4-го, уровня оказания медицинской помощи, к нам люди обращаются в самых непростых ситуациях. У нас осуществляется комплексный подход к лечению, от планирования и ведения беременности до родов и поддержки здоровья ребенка в первый год жизни. Работающим здесь докторам важно постоянно профессионально развиваться, пополнять свой багаж знаний. На планерках мы обязательно обсуждаем самые нестандартные ситуации. В медицине есть понятие «клинический случай» – подробный рассказ о конкретном пациенте с кратким резюме необычности лечебной практики, нюансами диагностирования, применением лекарственных средств и т.д. Это важный обмен мнениями и компетенцией.

И, конечно, многие из моих коллег ведут научные исследования, ведь материально-техническая база РНПЦ позволяет выполнять научно-исследовательские работы на самом современном уровне.

**Елена ТЕРЕНТЬЕВА**
(«Алеся»).
**Фото Екатерины СУСЛОВОЙ (Teddy Studio) и Ольги ХОМА.**

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

# Ці пазбавяць Аляксандра Бялецкага звання акадэміка?

*Як вядома, 15 лютага Мінскі гарадскі суд прыгаварыў былога дырэктара РНПЦ траўматалогіі і артапедыі Аляксандра Бялецкага да 7,5 года калоніі ўзмоцненага рэжыму за хабар. У яго таксама канфіскавана маёмасць. Аднак у прысудзе нічога не было сказана, ці пазбаўлены Бялецкі вучонага звання «акадэмік». А вось, напрыклад, інспектара ДАІ, якога таксама на пачатку лютага судзілі ў Мінску, не толькі прыгаварылі да пяці гадоў калоніі і канфіскацыі маёмасці, але адразу ж рашэннем суда пазбавілі спецзвання «капітан міліцыі».*

*Ці не азначае гэта, што вучонае званне застаецца незалежна ад таго, што навуковец парушыў закон і трапіў пад крымінальны пераслед?*

**Л.М.ХМЯЛЕЎСКАЯ. г.Мінск.**

Сапраўды, паводле рашэння Мінскага гарадскога суда Аляксандр Бялецкі асуджаны на 7,5 года калоніі ўзмоцненага рэжыму, у яго канфіскаваны 354 тысячы долараў і 65 тысяч еўра, аблігацыі на суму 15 тысяч долараў, каля 126 тысяч долораў на рахунках у банках, аўтамабіль BMW, гараж, аднакватэрны жылы дом у пасёлку Ратамка Мінскага раёна, кватэра і рэчы больш дробныя. Пра вучонае званне акадэміка ў судовым прысудзе ні слова.

Але ці мае права суд прымаць такія рашэнні? Напэўна, гэта ўсё ж такі справа Акадэміі навук, бо званне члена-карэспандэнта і акадэміка прысуджаецца паводле вынікаў галасавання на Агульным сходзе НАН Беларусі. 16 лістапада 2017 года, калі званне акадэміка атрымаў Аляксандр Бялецкі, у такім галасаванні ўдзельнічала каля 500 вядучых навукоўцаў краіны.


Фото TUT.by/

У прэс-службе НАН Беларусі «Народнай Волі» так пракаментавалі сітуацыю адносна асуджанага за хабар акадэміка Аляксандра Бялецкага:

– *Выбары ў правадзейныя члены (акадэмікі) і члены-карэспандэнты праводзяцца ў адпаведнасці са статутам Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, зацверджаным указам прэзідэнта ад 3 лютага 2003 года №56 «Аб некаторых пытаннях Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі», а таксама Палажэннем аб выбарах у члены НАН Беларусі, зацверджаным пастановай Агульнага сходу акадэміі ад 18 красавіка 2003 года №3. Як правіла, выбары праходзяць адзін раз у 2–3 гады.*

*Такім чынам, статутам Акадэміі навук не прадугледжаны інстытут пазбаўлення звання акадэміка.*

Варта адзначыць, што, напрыклад, пазбаўляць вучоных званняў прафесара і дацэнта мае права Вышэйшая атэстацыйная камісія Беларусі. На сайце ВАК пазначана, што ў адпаведнасці са сваёй кампетэнцыяй Прэзідыум ВАК мае права *«пазбаўляць (аднаўляць) ва ўстаноўленым парадку асоб, якім прысуджаны вучоныя ступені або прысвоены вучоныя званні, вучоных ступеняў і вучоных званняў»*. Як паступіць ВАК – пакуль не вядома.

Дарэчы, у судзе падчас допытаў Аляксандр Бялецкі распавядаў, што яго ўзнагародзілі медалём Нацыянальнай акадэміі навук у кастрычніку, калі ён знаходзіўся ў СІЗА. *«Жонцы ўручылі»*, – патлумачыў у судзе Бялецкі.

Прозвішча Аляксандра Бялецкага ёсць і ў спісе акадэмікаў НАН Беларусі, апублікаваным на афіцыйным сайце Акадэміі. Аднак па спасылцы зайсці на персанальную старонку Аляксандра Бялецкага, дзе змяшчаецца ўся інфармацыя аб яговых навуковых дасягненнях, немагчыма. Камп'ютар выдае запіс «Такой старонкі не існуе».

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ДАРЭЧЫ

### «Майму бацьку званне акадэміка вярнулі праз 7 гадоў пасля рэабілітацыі»

*Ці былі ў сучаснай гісторыі Беларусі выпадкі, калі вучоных за нейкія ўчынкі альбо непрыстойныя паводзіны пазбаўлялі звання акадэміка?*

– Нават у савецкія часы такіх прэцэдэнтаў не было, за выключэннем перыяду сталінскіх рэпрэсій, – *узгадвае вядомы вучоны, акадэмік НАН Беларусі, віцэ-прэзідэнт Беларускай акадэміі навук 1991–1997 гг.* ***Радзім ГАРЭЦКІ.*** – Акадэміка Андрэя Сахарава, які ў СССР лічыўся «ворагам народа», дысідэнтам і якога пазбавілі ўсіх урадавых узнагарод, трох залатых зорак Героя, званняў лаўрэата Сталінскай і Ленінскай прэмій і выслалі ў Горкі, усё ж такі не змаглі пазбавіць звання акадэміка!

Толькі ў часы рэпрэсій, калі вучоных саджалі ў турму, у іх забіралі акадэмічныя званні. Так было з маім бацькам Гаўрылам Іванавічам Гарэцкім, з Вацлавам Ластоўскім, Іосіфам Лёсікам і іншымі навукоўцамі. Пасля рэабілітацыі акадэмічныя званні ім вярнулі. Мой бацька, напрыклад, быў рэабілітаваны ў 1958 годзе, а званне акадэміка яму вярнулі толькі праз 7 гадоў – у 1965-м. Атрымалася так: у 1930-я бацька стаў акадэмікам у галіне эканомгеаграфіі, а у 1965-м – у геалогіі.

На мой погляд, пазбаўляць звання акадэміка – гэта ўсё ж такі няправільна.

ГУЧНАЯ СПРАВА

### Пагражае 14 гадоў калоніі…

4 сакавіка ў Мінскім абласным судзе плануецца абвяшчэнне судовай пастановы па крымінальнай справе былога начальніка Галоўнага ўпраўлення спажывецкага рынку Мінгарвыканкама **Сяргея Барысевіча**, а таксама іншых фігурантаў гэтай справы.

Барысевічу пракурор папрасіў прызначыць беспрэцэдэнтнае пакаранне – 14 гадоў пазбаўлення волі! Паводле матэрыялаў крымінальнай справы, кіраўніцтва ГУПР «абклала данінай» камбінаты школьнага харчавання Мінска, а таксама рэгулярна збірала грошы з гандлёвых сетак. Барысевіч у судзе прызнаў віну часткова, заявіўшы, што браў грошы не толькі для сябе, але і для сваіх начальнікаў.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ЧУЛІ?

### У Гродне дэманціруюць помнік Чапаеву



Паводле слоў рабочых ЖКГ, гэта робіцца для таго, каб правесці яго рэканструкцыю. На помніку Чапаеву з'явіліся трэшчыны. Бюст, які зроблены з арматуры, прагніў. Цягам года маюць намер праверыць і іншыя помнікі савецкай эпохі, у тым ліку і танк, які знаходзіцца на Савецкай плошчы.

Помнік Чапаеву знаходзіцца ў цэнтральнай частцы Гродна на вуліцы Міхася Васілька перад будынкам абласнога суда. Дарэчы, вуліца на пачатку 1990-х гадоў насіла імя Чапаева.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ГАСТРОЛЬ

# «Мексика просто потрясающая!»

*Позавчера артисты балета Большого театра Беларуси отправились покорять одну из красивейших стран мира – Мексику.*

Это уже третья поездка белорусского балета за океан: в 2010-м показывали спектакль «Дон Кихот» Л.Минкуса, в 2018-м – «Лебединое озеро» П.Чайковского. На этот раз решили рассказать сказочную историю, сюжет которой знаком жителям любого континента. На самых разных площадках больших и маленьких городов Мексики артисты представят балет П.Чайковского «Спящая красавица».

«Спящая красавица» – очень красивый балет! – говорит заведующая балетной труппой театра ***Татьяна Шеметовец***. – Это сказка, которую знают практически все жители Земли, пусть и в разных вариациях. Наша постановка – классическая, где многообразие танца очень гармонично и легко ложится на удивительную музыку Петра Чайковского».

Тихуана, Монтеррей, Гвадалахара, Ирапуато, Мерида, Канкун, Мехико и многие другие – около 30 городов Мексики ждут артистов белорусского балета в этот раз.

*«За полтора месяца – 42 спектакля, и это учитывая так называемые «двойники», когда в один вечер ребята танцуют два балета практически «встык» – один за другим, допустим, в 6 и 9 часов вечера*, – говорит заслуженная артистка Беларуси Татьяна Шеметовец. – *Волнуюсь безумно! Все-таки отвечаю за 45 человек! Главное, чтобы все были собраны, настроены и здоровы. Ведь «Спящая красавица» непростой спектакль. Очень большая нагрузка ложится как на ведущих артистов, так и на кордебалет. Часто девочки говорят, что им гораздо сложнее – по технике и балетным элементам – танцевать «Спящую красавицу», нежели «Лебединое озеро»...»*

Кстати, балерины Вероника Олещенко и Валерия Грудина будут дебютировать в этом спектакле именно в Мексике. А главные партии исполнят Ирина Еромкина, Александра Чижик, Яна Штангей, Виктория Тренкина, Дарья Медовская, Вероника Овчинникова, Игорь Артамонов, Антон Кравченко, Константин Героник, Егор Азаркевич, Артем Баньковский и другие артисты.

«Мексика – удивительно красивая страна! – говорит Шеметовец. – Огромные пространства, широкие горизонты, зелень, горы, океан, заливы! Точь-в-точь как в кино! Конечно, очень хочется, чтобы во время поездки нашлись минуты и для отдыха. Но это очень опасный момент. Потому что расслабляться нельзя! Положение обязывает быть собранными, на нас большая ответственность... Мне очень хочется, чтобы ребята чувствовали себя одной командой, более того – одной большой семьей. Чтобы все понимали: всегда есть плечо, на которое можно опереться. Это очень важно... Поэтому включаю здоровый оптимизм, добавляю капельку юмора и говорю артистам: «От 42 спектаклей нам никуда не убежать! Что бы вы ни думали и чего бы ни боялись – мы это сделаем! Поверьте!» Я знаю, что потенциал у труппы огромный! Каждый из артистов ответственный и неравнодушный человек, который обожает свою профессию...»

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

СТРАТА

# Лі Радзівіл памерла ў Нью-Ёрку ва ўзросце 85 гадоў

*Лі Радзівіл, свецкая львіца і малодшая сястра былой першай лэдзі ЗША Жаклін Кензді Анасіс, памерла ва ўзросце 85 гадоў у сябе дома ў Нью-Ёрку ў пятніцу, паведамляе Бі-Бі-Сі.*

Радзівіл у свой час стала іконай моды, сябравала з мастаком Эндзі Уорхалам і культавым пісьменнікам Труменам Капотэ.

Кэралайн Лі Бувье нарадзілася ў 1933 годзе, была замужам тройчы. Насіла прозвішча свайго другога мужа, князя Станіслава Радзівіла. У пары было двое дзяцей.

Яе дачка паведаміла New York Times, што яна памерла «праз натуральныя прычыны».



**На фота: Лі (справа) з сястрой Джэкі; з мужам князем Станіславам Радзівілам.**



АТЫ-БАТЫ

# Польша потратит 414 млн долларов на закупку ракетных установок в США

*Министр обороны Польши Мариуш Блащак заявил о планах подписать контракт на закупку ракетных установок в США за 414 млн долларов.*

За эти деньги Варшава получит 20 ракетных установок HIMARS дальностью до 300 км с боеприпасами. Закупка должна повысить боеспособность польской армии.

По словам Блащака, Польша получит вооружение за хорошую цену.

Вооружение должно быть доставлено в Польшу до 2023 года.

ПО ПОВОДУ

# Как живешь, Сербия?

*15 февраля в Сербии отпраздновали День государственности. Он посвящен сразу двум событиям – началу Первого сербского восстания в 1804-м и принятию Конституции в 1835 году.*



Первое сербское восстание против османского владычества началось 14 февраля 1804 года и длилось более девяти лет, до 7 октября 1813 года. В 1812 году был заключен Бухарестский мирный договор, который обязал Турцию предоставить Сербии право на внутреннее самоуправление. Однако в 1813 году Османская империя воспользовалась тем, что Россия была занята войной с Наполеоном и не могла оказать помощь Сербии. Сербские войска были разгромлены, а власть султана восстановлена.

Несмотря на то, что восстание окончилось для сербов неудачей, оно имело большое значение для становления сербской государственности. Главным его итогом было признание Османской империей права сербов на автономию – впервые за несколько столетий.

Что касается Конституции Сербского княжества, то она была принята 15 февраля 1835 года, на христианский праздник Сретения Господня. Поэтому данный документ известен под названием «Сретенский устав», хотя официальное его название – «Органический устав».

Документ был принят под руководством князя Милоша Обреновича, разработал его секретарь князя Давидович преимущественно по образцу конституции Франции. Это была первая сербская конституция. Несмотря на то, что документ был отменен через месяц, его принятие является важной вехой в истории страны.

***«Народная Воля» поинтересовалась особенностями сегодняшней жизни в Сербии.***

## Самые высокие пенсии – у академиков

Сербия – аграрное государство. Большая часть населения занимается сельским хозяйством: выращивает овощи и фрукты, разводит скот, занимается пчеловодством. Этому в первую очередь способствует теплый климат. Иностранцам чаще всего предлагают работу в сфере услуг и сельского хозяйства. Средняя зарплата по стране неоднородная. Например, больше всего получают в Белграде, а на западе и востоке страны – поменьше.

***Средняя зарплата в Сербии*** за 2018 год составила 46.000 динар, что равняется 390 евро. Тем не менее на севере страны и в Белграде зарплата выше и составляет порядка 55.000 динар, или 470 евро. А на юге и западе страны – только 38.000 динар, или 320 евро. Очевидно, что наиболее перспективный район для жизни – северный. Однако в целом для экономики страны такой перекос в зарплатах оказывает плохое влияние на ее рост и развитие.

Кстати, зарплаты в Сербии одни из самых маленьких в Европе, в регионе меньше получают только в Македонии и в Албании, – сообщает исследовательско-издательский центр «Демостат».

По информации «Демостата», в Великобритании получают в среднем 1990 евро в месяц, во Франции – 2157, а в Германии – 3771 евро. В Боснии и Герцеговине зарплата 440 евро, в Черногории – 512, в Хорватии – 832, в Словении – 1077, в Венгрии – 703, в Румынии – 535, в Болгарии – 457, в Македонии – 376, а в Албании – 378 евро.

***Пенсии в Сербии очень маленькие*** по сравнению с другими странами Балканского полуострова. Средняя пенсия составляет 25.000 динар, или 220 евро.

***Самая высокая пенсия у академиков, шахтеров и орденоносцев.*** Общее число пенсионеров увеличивается в год примерно на 100 тысяч. Они составляют более 60% всего населения Сербской Республики.

***Уровень безработицы*** в Сербии по-прежнему высок. Еще два года назад Сербия была в глубоком кризисе, безработица составляла 25%. Очень много сербов ездят на заработки в соседние страны – Австрию, Хорватию, Италию. Уровень жизни населения низкий и по сей день. В 2018 году ВВП вырос только на 2%, это означает, что благосостояние населения не улучшается.

Еще слишком высока внешняя задолженность государства (около 26 млрд евро), требуется реструктуризация государственных предприятий.

Доступ к рынку труда иностранцам усложнен: компания не имеет права взять на работу чужеземца, пока не докажет, что на эту позицию не подходит ни один серб.

## Дорогие бензин, коммуналка, медицина и связь

Местные жители шутят: перед тем как заправить бак автомобиля, наведайтесь в аптеку за сердечными каплями. Цены на топливо в Сербии в два раза выше, чем в России. «Затю это повод больше ходить пешком!» – улыбаются местные жители.

Коммунальные платежи – серьезная статья расходов. На одно центральное отопление иногда улетает 70–100 евро в месяц, причем платить их надо даже летом. Можно сэкономить, поселившись в квартире без ц/о, благо зимы здесь мягкие. В этом случае вырастут счета за электричество, но только в холодное время года.

Недешевая тут и медицина, за исключением стоматологии и косметологии. Кстати, в Сербии действует система обязательного медицинского страхования, которое включает: страховку на случай травмы (болезни) на работе; страховку на случай травмы (болезни) вне работы. Иностранцы по прилете обязательно оформляют страховку. Неотложная помощь оказывается бесплатно, как и вызов «скорой».

## Кто инвестирует миллиарды в Сербию?

Инвестиции в Сербию растут. Инвесторы видят потенциал роста и воодушевлены низкими затратами на создание и поддержание бизнеса. Тем более что ценность имеющихся в Сербии ресурсов намного выше, чем их нынешняя оценка.

Для ведения бизнеса в Сербии требуется относительно немного времени и усилий. В Сербию инвестирует множество инвесторов из самых разных стран. Особенно на этом фоне выделяется Китай.

Балканский регион привлекает инвесторов со всего мира. Пока что Европейский Союз обеспечивает 73% торговли в этом регионе, а Россия и Китай – по 5%. Однако в целом местные жители больше видят последствия взаимодействия с Китаем и Россией, нежели с Европой и США.

На самом деле каждый крупный мировой игрок уже зашел на рынок Сербии и занял свою нишу. Европа занимается верховенством закона, поддержкой и развитием бизнеса. Американцы вкладываются в безопасность. России интересно заниматься энергетикой и иностранной политикой, а Китаю – инфраструктурой и рынком.

Помимо выкупа за низкую цену действующих предприятий, китайцы планируют и открывают в Сербии новые компании.

Как сообщает internationalwealth.info, в начале 2018 года китайская компания Linglong выбрало Сербию как одну из четырех потенциальных стран, куда планирует инвестировать 400 миллионов евро и строить завод по производству покрышек. Это будет крупнейшая инвестиция в индустрию Сербии.

В июне 2018 года стало известно, что базирующийся в Шанхае инвестиционный фонд Sino-China Investment Group заинтересован вкладывать деньги в Сербию через Шанхайскую биржу. Здесь речь идет не о миллионах, а о миллиарде евро потенциальных инвестиций! И только на первом этапе!

***Спектр промышленного производства в Сербии стремительно расширяется.*** Сербия уже стала базой для производства осветительного оборудования европейского бренда – нагревательных элементов Ariston. Это не говоря про шахты по добыче металлов и заводы по их переработке.

Даже Европейский банк реконструкции и развития (ЕБРР) планирует сделать Сербию своим региональным центром на Балканах.

Теперь в список добавится и производство запасных частей для автомобилей. Турецкий производитель с 30-летним стажем в этой области Feka Automotive решил открыть фабрику в сербском городе Чуприя. Когда-то через этот город проходила древнеримская дорога, которая соединяла Константинополь с Римом, а теперь в городе соединяются промышленные интересы Запада и Востока.

Кстати, Сербия предлагает уникальные возможности для бизнеса, например:

возможность быстро зарегистрировать компанию или, что еще быстрее, филиал иностранной/оффшорной компании; беспошлинный доступ к 1,1 миллиарда потенциальных клиентов в ЕС, США и других частях света; низкие затраты на ведение бизнеса: от низких цен на аренду офисных помещений до дешевой рабочей силы; более 50 соглашений об избежании двойного налогообложения; отсутствие последствий санкций против России.

В Сербии существует 11 свободных экономических зон. В них созданы условия для проведения всех видов деятельности, кроме торговли в розницу. На территории СЭЗ предлагаются льготные экономические условия. Участники освобождены от налогообложения, оплаты различных взносов и пошлин.

### А ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ, ЧТО...

*Самым популярным у сербов напитком является кофе. А вот чай они почти не пьют. Некоторые сербы искренне верят, что это вообще какое-то лекарство.*

*Некоторые бани, которыми славится Сербия, были построены тут еще во времена Римской империи, и они до сих пор функционируют.*

*Около 30% всей малины в мире выращивается именно в Сербии.*

*В Сербии не принято разуваться, приходя в гости, даже если на улице мокро и грязно.*

*Здесь неофициально действуют два алфавита – кириллический и латинский. В последнее время латиница становится более популярной, но официальной является кириллица.*

*Большинство сербов живет с родителями в среднем до 30 лет.*

*Во многих питейных заведениях в Сербии нет кухни. А там, где можно вкусно поесть, запросто может не быть алкоголя.*

*В Сербии в свое время было рождено более десятка римских императоров.*

*Красное вино в Сербии называют черным.*

*Около трети всех сербских территорий занято лесами. Половина из них принадлежит государству, другая половина – частным лицам.*

*Уровень рождаемости в Сербии один из самых низких в мире.*

*Почти везде в Сербии можно спокойно пить воду прямо из-под крана. Если нельзя, будет висеть соответствующая табличка с предупреждением.*

*Сербы очень ценят «мерак» – отдых, который в средиземноморье еще называется «сиеста». Сюда входит обязательный кофейный ритуал, перерывы во время работы, а также посиделки с близкими друзьями.*

*В Сербии также очень много курят. Это тоже часть национальной традиции, которая, видимо, пришла в эту страну с Востока, когда Сербия была частью Османской империи.*

*Для проживания в Сербии на законных основаниях достаточно **купить недвижимость.** При этом не нужно будет платить налоги или открывать свой бизнес. Конечно, процедура не лишена формальностей, но абсолютно прозрачна и легальна.*

## Доверие к банкам Сербии растет: вклады по депозитам утроились с 2012 года

Согласно данным СМИ Сербии, в конце сентября 2018 года в сербских банках хранилось 54,6 миллиарда динаров, что в 3 раза больше, чем было в 2012 году.

Только за первые 9 месяцев 2018 года прирост составил 6,2 миллиарда динаров, или 12,3%, сообщает internationalwealth.info.

Депозиты в иностранной валюте достигли суммы в 9,7 миллиарда евро, причем 8,8 миллиарда хранятся непосредственно в евро, а остальные 0,9 миллиарда – в других валютах. Прирост за 9 месяцев составил 405,8 миллиона евро.

В чем причина роста вкладов? С одной стороны, процентные ставки по вкладам в динарах. Они составляют в среднем 2,61%, в то время как за вклады в евро дают от 0,54% до 1,09%.

Сами банкиры считают, что причина роста вкладов в растущем доверии к банковской системе Сербии. Банки сильные, стабильные, работают на благо клиентов. Сербские банки готовы сотрудничать на выгодных условиях как с местными, так и с иностранными резидентами.

Тем более охотно они открывают счета для местных компаний, даже если владельцем является иностранный гражданин. Это одна из причин, почему инвесторы открывают на территории Сербии компании и филиалы вместе с банковскими счетами.

## Философия жизни: никто никуда не спешит

Многие отмечают, что в Сербии медленное течение жизни. Местные называют это явление «полако». Здесь никто никуда не торопится. Продавцы в магазинах работают медленно, как и водители такси, медработники или парикмахеры. Из-за этого везде очереди.

**Полако** – это философия и стиль жизни. На русский слово можно перевести как «потихоньку, не спеша, расслабленно». *Полако* – умение балканцев отдыхать и радоваться бытию.

**Подготовила Алина ВЕТРОВА.**



ДЫЯЛОГІ





## Міхась СКОБЛА – Анхела ЭСПІНОСА РУІС

# «У Іспаніі мне гавораць: у цябе столькі талентаў, а ты іх марнуеш...»

*У кавярні ўсмешлівая дзяўчына папрасіла афіцыянта прынесці кухаль піва з цытрынай. Разгублены афіцыянт нахіліўся і ветліва перапытаўся, што ўсё ж заказвае госця. Яна паўтарыла. Малады чалавек пачырванеў і перапытаў зноў. Тут ужо я не вытрымаў і пераклаў заказ на даступную афіцыянту мову. Ён усміхнуўся і прынёс два кухлі – адзін як узнагароду за незвычайны ўрок беларускай мовы.*

*Можна было б і мне ўсміхнуцца з гэтай нагоды, але кавярня тая знаходзіцца ў самым цэнтры беларускай сталіцы, а ўрок афіцыянту дала… іспанка Анхела Эспіноса Руіс... Яна прыляцела ў Мінск атрымліваць Літаратурную прэмію імя Міхася Стральцова, што і адбылося 15 лютага на адкрыцці XVIII Міжнароднага Стральцоўскага паэтычнага фэсту. Першае інтэрв'ю лаўрэатка ахвотна дала для «Народнай Волі» – ну калі ўжо мы разам піва пілі...*

### «Мне ўжо нельга знікаць, шляху назад няма»

**– Анхела, віншую з прэміяй і новай кнігай, якую Саюз беларускіх пісьменнікаў падгадаў выдаць акурат да Стральцоўскага фэсту! Што вы адчувалі, калі вас запрасілі падняцца на сцэну?**

– Атрыманне гэтай прэстыжнай прэміі – не толькі вялікі гонар для мяне, але і вялікая адказнасць. Цяпер я павінна быць заўжды на вышыні, працягваць пісаць па-беларуску. Мне ўжо нельга здавацца ці знікаць, шляху назад няма. Міхась Стральцоў – адзін з галоўных пісьменнікаў у маім жыцці, ён моцна паўплываў на мяне. Я нават пісала магістарскую працу па яго творчасці.

**– А чым ён вас зацікавіў? Здаецца, у вас нават ёсць вершы, прысвечаныя Стральцову?**

– Так, ёсць. Першым творам Стральцова, які я прачытала, было апавяданне «Свет Іванавіч, былы донжуан». Мне яго падсунуў хлопец, у якога я была закахана, у 2015 годзе. Мяне ўразіў тонкі псіхалагізм стральцоўскай прозы, пазней захапіла і яго паэзія. Чытаючы Стральцова, я адчуваю, што ён існаваў нібы ў двух светах – як Максім Багдановіч (беларуская і руская культуры) ці як Максім Гарэцкі (вёска і горад, сталіца і правінцыя). Усе трое нідзе не адчувалі сябе сваімі, але нідзе не былі цалкам чужымі. Маё сэрца на гэта адклікаецца, бо я таксама жыву падвойным жыццём – у Іспаніі і Беларусі. Хоць цяпер пераважна знаходжуся ў Варшаве, дзе вучуся ў аспірантуры па міжнароднай праграме.

### «На мяне літаратурныя негры не працуюць»

**– Якім чынам вы ўвогуле трапілі ў Беларусь, зацікавіліся нашай мовай і літаратурай? Беларусы ў такіх выпадках кажуць: ні з пушчы, ні з поля.**

– Не з пушчы – гэта дакладна (*смяецца*). Калі мне было 15 гадоў, у 2008-м, я, адзіная з усёй Іспаніі, трапіла на моладзевы семінар у Варшаве па міжнародным культурным абмене. І там было вельмі шмат людзей з постсавецкай прасторы. Тады я ўпершыню пачула славянскія мовы, ведаючы на той час родную іспанскую, англійскую і трохі французскую. Пасля семінара ў мяне з'явіліся сябры з Беларусі, яны і пачалі пакрысе знаёміць мяне з беларускай культурай, літаратурай, музыкай, фальклорам. А ў 2010 годзе я перамагла ў журналісцкім конкурсе на лепшую публікацыю пра Беларусь і, трапіўшы ў беларускамоўную кампанію, упершыню пачула вашу мову. У той час я ўжо вывучала славістыку ў Гранадскім універсітэце.

**– Адна справа – вывучыць мову, чытаць і размаўляць на ёй. Але пісаць па-беларуску вершы – тут патрабуецца зусім іншы ўзровень. Прызнайцеся, што вы зачаравалі сваёй прыгажосцю кагосьці з маладых беларускіх паэтаў…**

– І ён за мяне піша? Не, на мяне літаратурныя негры не працуюць (*смяецца*). Пагадзіцеся, у мяне ўсё ж вельмі жаночая паэзія. Штоазу, калі я пачынаю вывучаць новую мову, я спрабую на ёй пісаць. Мяркую, што пісанне вершаў на пэўнай мове дае вельмі глыбокае адчуванне гэтай мовы, якога немагчыма дасягнуць іншымі шляхамі. Я спрабавала пісаць лірыку па-ўкраінску, па-польску…

**– Але толькі на беларускай мове ў вас ужо выйшлі чатыры кнігі! У 25 гадоў.**

– Так атрымалася. Вашу мову я пачала вывучаць з нуля. Хоць па адукацыі я – славянскі філолаг. Першай замежнай у мяне была руская мова, другой – польская, трэцяй (факультатыўнай) – балгарская. А яшчэ мы вывучалі стараславянскую. Гэта складана патлумачыць, але мне хацелася стаць толькі беларускім філолагам. Прынцыпова!

### «Мужчын я выбіраю вельмі патрабавальна»

**– Што значыць – прынцыпова? Можа быць, вы закахаліся ў беларуса? Каханне творыць цуды.**

– О, каб так было! Каханне сапраўды здольнае здзяйсняць цуды. Так, у мяне былі вельмі добрыя сябры з Беларусі, адзін з іх мне падабаўся. Але тады мне было ўсяго 16 гадоў, гэта такія рамантычныя падлеткавыя пачуцці.

**– Якія з цягам часу перараслі ў штосьці большае?**

– Ну, мы і да гэтага часу сябруем. Не ўсе нашы пачуцці незваротна адыходзяць у мінулае. З вашага дазволу я скажу нешта непаліткарэктнае. Аднойчы мне задалі вельмі правакацыйнае пытанне: што б здарылася, калі б у адным пакоі сабраліся ўсе людзі, з якімі вы спалі? Я доўга смяялася, потым задумалася.

**– Што, спатрэбіўся б вельмі вялікі пакой?**

– Зусім не (*смяецца*). Гэта была б невялікая кампанія беларускай інтэлігенцыі, і сустрэча была б прыязнай. Я вельмі асцярожна і патрабавальна выбіраю мужчын. Зразумейце, у мяне няма комплексаў. Я магу аддацца ўсёй душой (і не толькі душой), але толькі чалавеку, які мне сапраўды спадабаўся.

**– Вы такая шчодрая ў гэтым сэнсе… А як быць з вечным і адзіным каханнем? Вы ў яго не верыце?**

– Веру. Хочацца рабіць як лепш, а атрымліваецца як заўсёды (*смяецца*).

**– А стварыць уласную сям'ю ў вас памкненняў пакуль няма?**

– Шлюб мяне трохі палохае, гэта ўсё ж своеасаблівы кантракт, пасля падпісання якога ў чалавечых адносінах пачынае прысутнічаць дзяржава. Сям'я прывязвае чалавека да пэўнага месца. Я пакуль не бачу неабходнасці стала жыць у Беларусі, або каб мой абраннік-беларус пераехаў да мяне ў Іспанію. Я не супраць шлюбу, але для мяне гэта не прынцыпова. Для мяне сям'я – гэта людзі, якіх выбіраеш кожны дзень, якіх хочацца бачыць побач.

**– Магчыма, вы так разважаеце, бо пакуль не сустрэлі таго, хто палоніць вас з першага позірку.**

– Усё магчыма. Калі гаварыць пра каханне з першага погляду, то яно ў мяне было – да беларускай мовы. Я сапраўды закахалася ў яе! Я зразумела, што гэта тая мова, якой я хачу прысвяціць сваё жыццё – вось мой шлях, вось маё месца. Прыйшло адчуванне, што ў Беларусі я – дома. Я ўсё жыццё ўцякала невядома ад чаго і невядома куды.

**– Гэта нейкім чынам звязана з вашай сям'ёй?**

– Не, сям'я ў мяне выдатная – крый Божа нешта кепскае пра яе казаць! Як многія іспанскія сем'і, наша – вялікая і дружная. Гэта не толькі тата, мама, я, але і стрыечныя дзядзькі, цёткі, дзядулі, бабулі, кузіны, фактычна гэта такое маленькае грамадства. Я па прыродзе інтраверт, заглыблены ў сябе. А на маёй радзіме, у Іспаніі, калі чалавек глядзіць у дол і не размаўляе, напрыклад, у чарзе па хлеб ці на прыпынку аўтобуса, гэта выглядае непрымальна. Трэба ўвесь час быць адкрытым. А я люблю цішыню, кнігі. Прызнаюся, кнігі мне часам больш цікавыя, чым людзі. Помню, калі мне было гадоў сем, усе дзеці выйшлі са школы на перапынак, а я сядзела ў класе і чытала. Зайшла настаўніца і пытаецца: «Анхела, чаму ты тут адна?» А я адказала: «Мне не адзінока – глядзіце, колькі тут кніг!»

### «Бацькі бачылі мяне юрыстам ці палітолагам»

**– Вашы бацькі жывуць на поўдні Іспаніі, у горадзе Малага. А чым яны займаюцца?**

– Маці – настаўніца, працуе намеснікам дырэктара школы і выкладае матэматыку. Тата кіруе філіялам вялікай страхавой кампаніі. У мяне ёсць малодшы брат, ён вывучае фізіку і матэматыку.

**– Вы першая ў сям'і, хто заняўся гуманістыкай?**

– Не, тата ў маладосці быў фалькларыстам. Ён хадзіў па вёсках Андалусіі, збіраў народныя песні, прыказкі і прымаўкі. Разам з сябрамі яны стваралі музычныя гурты і спявалі тыя песні, нават па тэлебачанні выступалі. Пазней тата трымаў свой паб, праўда, ён хутка закрыўся – складаныя часы былі. Таму ён пайшоў у страхавую кампанію, але застаўся творчым чалавекам, выдатна грае на гітары, мае добры голас. І калі мне часам кажуць, што я добра спяваю, я адказваю: вы проста не чулі спеваў майго таты!

**– А бацька не гаварыў: дачушка, нашто табе тая славянская філалогія? Ідзі лепш у страхавыя агенты ці ў настаўніцы, як маці.**

– Бацькі бачылі мяне юрыстам ці палітолагам, перасцерагалі: што ты мецьмеш з тае філалогіі, кім ты будзеш працаваць? Прызнацца, я і дагэтуль не магу адказаць на іхнія пытанні. Я не люблю хваліцца, але я была адораным дзіцём, вучылася ў музычнай школе, іграю на піяніна, на скрыпцы і на гітары, спяваю. У Варшаўскім універсітэце я вывучала традыцыйныя спевы Падляшша. Музыка – маё другое захапленне пасля філалогіі. А яшчэ я аматарка футбола, з беларускіх клубаў мне найбольш падабаецца «Старт» з Оршы, я нават напісала для яго гімн.

**– Вы родам з правінцыі Гранада, якую мы ведаем найперш як радзіму Федэрыка Гарсія Лоркі. Яго бліскуча пераклаў Рыгор Барадулін…**

– Бліскуча? Мне зусім не падабаюцца тыя пераклады. Вы чыталі Лорку ў арыгінале?

**– На жаль, не – не валодаю іспанскай.**

– У Барадуліна атрымаліся выдатныя вершы, але гэта не Лорка. Лорка пісаў знарок няправільна, яго ў перакладах (асабліва ў рускіх і беларускіх) заўжды моцна падпраўлялі – і рытм, і рыфму, і метафары, каб не былі занадта агрэсіўныя. Шкада, але беларусы сапраўднага Лоркі да гэтай пары не ведаюць.

**– Дык перакладзіце так, каб уведалі.**

– Прызнацца, я ўжо паспрабавала – у новай кнізе «Колер крылаў» можна пабачыць, што атрымалася.

### «У Беларусі мне не хапае аднаго – сонца!»

**– У Іспаніі гады два таму выйшла кніжка Максіма Багдановіча ў вашых перакладах. Здаецца, нават пры ўдзеле беларускай амбасады. Як вы змаглі зацікавіць яе сваім праектам?**

– Гэта была не мая ініцыятыва. У 2016 годзе мне патэлефанавалі з маленькага іспанскага выдавецтва, дзе працуюць муж і жонка – ён іспанец, яна беларуска. Яны выдалі даволі шмат рускай літаратуры і хацелі выдаць штосьці беларускае. І я згадала, што ў наступным годзе будуць 100-я ўгодкі з дня смерці Максіма Багдановіча. Так знайшлася нагода, хоць і сумная. Мая прапанова была прынята, бо Багдановіч – паэт, які вельмі добра ўспрымаецца ў Еўропе. Я засела за працу. Помніцца, «Санет» («Паміж пяскоў егіпецкай зямлі…») перакладала цэлыя дзве гадзіны! Потым да праекта падключыўся амбасадар Павел Латушка, які прадстаўляў Беларусь у Францыі і Іспаніі, ён нават прыехаў на прэзентацыю кніжкі. Вельмі прыемны і інтэлігентны чалавек.

**– Вы даволі часта бываеце ў Беларусі. Чаго вам тут не хапае?**

– Сонца! Калі я ўпершыню прыехала ў Мінск, то заўважыла, як мала тут святла – у параўнанні з маёй радзімай. Промні сонца не такія яркія, колер неба пераважна шэры. З-за гэтага ў мяне нават здараліся дэпрэсіўныя перыяды, імунітэт паніжаўся. Я не зусім добра сябе адчуваю, пакуль акліматызацыя ідзе. Як расліна, якой не хапае святла.

**– Існуюць такія марскія расліны, якія цалкам «харчуюцца» сонечным святлом. Вы падобныя на іх?**

– Не, я ўсё ж і паесці люблю.

**– А як вам беларуская кухня?**

– Мне вельмі падабаецца. Смачная, сытная, асабліва мне смакуюць розныя «бабуліны» стравы – тыя ж дранікі. А нядаўна сябар перадаў мне малінавае варэнне – смаката! Для Іспаніі, дарэчы, гэта экзотыка.

### «Вы ад чужынцаў заўжды чакаеце добрага слоўца пра беларускую культуру – проста як вады ў пустыні!»

**– Мы з вамі гутарым ужо цэлую гадзіну, і за гэты час вы не зрабілі ніводнай памылкі. І з націскамі ў вас усё ў парадку, і з канчаткамі. Вы, відаць, спіце з граматыкай беларускай мовы пад падушкай.**

– У мяне была такая граматыка, тое-сёе я, канешне, вывучыла, але звод правілаў да канца так і не дачытала. Мова вучыцца найлепш праз практыку. Я стараюся як мага часцей размаўляць па-беларуску. Амаль усе мае сябры ў Варшаве валодаюць беларускай мовай, нават палякі. Прыкладна 90 працэнтаў часу ў Польшчы я размаўляю на мове. А бывала, што гаварыла і з люстэркам, каб удасканаліць сваё беларускае вымаўленне.

**– На Стральцоўскім фэсце я назіраў, з якім трапяткім пачуццём вас слухалі мае суайчыннікі, як рабілі з вамі сэлфі. Беларусы вас любяць. Дзякуй за тое, што вы з намі, што вы такая, якая ёсць!**

– Я заўважыла, што вы пра сваю радзіму, пра сваю культуру заўжды чакаеце добрага слоўца ад чужынцаў – проста як вады ў пустыні! Вам чамусьці гэта трэба, каб пачаць цаніць і любіць сваё. Мая ж любоў, паверце, непрытворная і ідзе з самага сэрца. Я люблю і старажытны Полацк, і лагоднае Гродна, і прыветлівы Мінск, і заснежаны лес ля дарогі, і спакойныя рэкі. Я разумею, што мяне ў Беларусі ўспрымаюць як з'яву экзатычную, нетыповую. Хай сабе. Быць нетыповым – гэта заўсёды выклік. Але яшчэ Уладзімір Караткевіч казаў: рабі, як не робіць ніхто, і ты пераможаш!

---

ЗАКУЛІССЕ

## Пётр РУДКОЎСКІ:

# «Добрая канкурэнцыя – заўсёды стымул для развіцця!»

*Тыдзень таму ў Беларусі прэзідэнцкім указам створаны Беларускі інстытут стратэгічных даследаванняў.*

*Праз два месяцы будзе ліквідаваны Інфармацыйна-аналітычны цэнтр, які працаваў пры Адміністрацыі прэзідэнта. Уся маёмасць ІАЦ дастанецца ў спадчыну дзяржаўнаму БІСД.*

*Тым часам больш за 10 гадоў таму быў створаны незалежны аналітычны цэнтр з такой жа назвай, як цяпер у дзяржаўнага БІСД. Незалежны Беларускі інстытут стратэгічных даследаванняў зарэгістраваны ў Вільнюсе. Ён больш вядомы пад брэндам BISS. Дырэктарам BISS з'яўляецца кандыдат гуманітарных навук **Пётр Рудкоўскі**. Дырэктарам дзяржаўнага БІСД – доктар юрыдычных навук **Алег Макараў.***

### Чым будзе займацца БІСД?

Паводле афіцыйнай інфармацыі, асноўныя напрамкі дзейнасці такія: правядзенне навуковых даследаванняў; вывучэнне тэндэнцый развіцця міжнародных, грамадска-палітычных і сацыяльна-эканамічных працэсаў; даследаванне рызык і выклікаў у інфармацыйнай сферы.

Інстытутам таксама будуць распрацоўвацца рэкамендацыі, накіраваныя на ўдасканаленне дзяржаўнай палітыкі ў розных сферах.

### Хто такі Алег Макараў?

Да прызначэння дырэктарам БІСД Макараў узначальваў інфармацыйна-аналітычнае ўпраўленне дзяржсакратарыята Савета бяспекі Беларусі. Раней працаваў намеснікам кіраўніка Інстытута нацыянальнай бяспекі.

Тэма доктарскай дысертацыі Макарава – «Прававое забеспячэнне інфармацыйнай бяспекі на прыкладзе абароны дзяржаўных сакрэтаў дзяржаў – удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў». Абараняўся ён у Маскве, у Інстытуце дзяржавы і права Расійскай акадэміі навук.

### Як будуць існаваць два інстытуты з фактычна аднолькавымі назвамі?

На гэтае пытанне «Народнай Волі» адказаў дырэктар BISS Пётр Рудкоўскі.

«*Пэўная нязручнасць, канешне, прысутнічае, але яна не большая і не меншая, чым у выпадку, напрыклад, з двума саюзамі пісьменнікаў альбо саюзамі палякаў. Іх вельмі лёгка зблытаць нават дасведчаным людзям*, – гаворыць Рудкоўскі. – *Да таго ж мы ўсё ж такі часцей фігуруем пад англійскай абрэвіятурай BISS. Таму для нашага інстытута я пакуль асаблівых праблем не бачу.*

*У свеце мора стратэгічных інстытутаў, сёння ўвогуле гэта трэнд – ствараць інстытуты альбо цэнтры стратэгічных даследаванняў. А ў 2007 годзе, калі засноўваўся наш BISS, гэта выглядала нейкім наватарствам.*

*І калі ў дзяржаўным інстытуце стратэгічных даследаванняў створыцца сапраўды прафесійнае асяроддзе, экспертная аўтаномія, то асабіста я як беларускі патрыёт буду гэта толькі вітаць. Гэта будзе пэўная канкурэнцыя для нас. А добрая канкурэнцыя – заўсёды стымул для развіцця. Але ці будзе так, – пакуль складана сказаць…*»

**Марына КОКТЫШ.**

---

РЭГІЁН

# Дошка гонару з няправільным гербам

У Гродне побач з аднаўленым будынкам філармоніі манціруюць абласную Дошку гонару. Жыхары горада заўважылі, што на ёй замацаваны герб Гродна, форма шчыта якога адрозніваецца ад таго, які афіцыйна зацверджаны ў Мінюсце.

Пра памылку галосна пачалі казаць гродзенскія калекцыянеры. Адзін з іх, Віктар Какарэка, які быў дэпутатам гарадскога Савета ў той час, калі зацвярджалі герб Гродна, распавёў «Народнай Волі», як насамрэч павінен выглядаць герб горада.

Паводле яго слоў, памылка ў тым, што ў эталоннага герба павінна быць фігурная форма шчыта, а ў таго, які зараз замацаваны на Дошцы гонару, – французская форма шчыта.

«Справа ў тым, што Гродна атрымаў Магдэбургскае права ў 1391 годзе, – нагадвае Какарэка. – А пячатка з гербам горада, якая захавалася, адносіцца да 1540 года, і менавіта на ёй была змешчана гэта няправільная форма шчыта. Але ў Мінюсце на пачатку 1990-х гадоў быў зарэгістраваны герб з правільнай формай шчыта, ён і лічыцца эталонным».

Какарэка звяртаўся ў ідэалагічны аддзел аблвыканкама, але там яму адказалі, што герб Гродна на Дошцы гонару адпавядае праекту. Былы дэпутат і калекцыянер з жалем кажа, што чым далей, тым меней выкарыстоўваецца эталонная выява гродзенскага герба.

«Той эталонны герб, які змешчаны на сайце Гродзенскага гарвыканкама, як бы ўсімі ігнаруецца, – заўважае Какарэка. – Паспрабуйце адкрыць інтэрнэт, і часцей за ўсё там гуляе герб Гродна, які не адпавядае эталоннаму. Шкада, бо рана ці позна людзі пачнуць да гэтага прыглядацца».

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ЗАКУЛІССЕ

# Жывы тэатр

Рэдкі выпадак для артыкула на тэатральную тэму, калі галоўным героем з'яўляецца не рэжысёр, не акцёр і не сцэнограф. Сёння ў цэнтры маёй увагі -- дырэктар, дакладней дырэктарка Гомельскага гарадскога маладзёжнага тэатра **Алена Маставенка**. Прыгожая, упартая, разумная, яна за два гады працы зрабіла, можна сказаць, амаль немагчымае. Насамрэч гэта падобна на казку: у рэаліях сучаснай Беларусі, дакладней – сучаснага абласнога горада, у цяжкіх эканамічных умовах, ва ўмовах, калі культура выціснута дзяржавай на ўзбочыну грамадскага жыцця, спадарыня Маставенка змагла ўратаваць тэатр ад творчай пагібелі, і ён, як міфічная птушка Фенікс, не толькі адрадзіўся ці не з попелу, а прымусіў са здзіўленнем і нават з зайздрасцю назіраць за сваім палётам больш шчасных калег.

За чвэрць стагоддзя свайго існавання гэты невялікі рэгіянальны тэатр спазнаў, бадай, усе праблемы, што паўставалі перад беларускімі творцамі. Нараджэнне ў 1992 годзе, адразу пасля скасання СССР, новага тэатра ў Гомелі было падобным на казку. Бізнесмен-патрыёт **Рыгор Фіглін** зрабіў падарунак роднаму гораду ў выглядзе першага ў Беларусі прыватнага «Незалежнага тэатра». Я памятаю, як цікава пачынаў творчы шлях калектыў. Але пасля загадкавай гібелі ў Маскве спадара Фігліна, натуральна, тэатр сутыкнуўся спачатку з фінансавымі, а пасля і творчымі праблемамі. І ў 1999 годзе яго ўзяў пад сваё крыло горад. Незалежны тэатр стаў дзяржаўным – Гомельскім гарадскім маладзёжным эксперыментальным тэатрам-студыяй. Тэатр застаўся жыць са сваімі творчымі ўзлётамі і падзеннямі, але з бясконцым блуканнем па пакутах, тыповых для «дзяржаўнай установы мастацтва»: з пастаяннымі зменамі мастацкіх кіраўнікоў і дырэктараў, нікчэмным фінансаваннем і пільным ідэалагічным наглядам. А абцяжарвае гэта ўсё адсутнасць уласнага будынка.

Менавіта існаванне на мяжы выжывання, няпэўнасць працы і дырэкцыі, і мастацкага кіраўніцтва некалькі гадоў таму сталі прычынай расколу трупы. Гэта была катастрофа: частка трупы пакінула тэатр, на афішы было толькі некалькі назваў забаўляльнага кштальту спектакляў. Гарадскія ўлады не паддаліся на ўнутрытэатральныя разборкі і прынцыпова вырашылі прызначыць дырэктарам чалавека з боку, з досведам адміністрацыйнай работы ва ўстановах культуры, хоць і не ў тэатрах.

Сцэна са спектакля «OEDIPUS / Эдып«. Эдып – Д.Попчанка.

Так у студзені 2017 года кіраваць тэатрам прыйшла Алена Маставенка. І два гады ўпарта, не баючыся рызыкі, яна выцягвае калектыў з тупіковага стану. Па сутнасці, яна і дырэктар, і мастацкі кіраўнік у адной асобе. Уяўляеце, што значыць цягнуць на сваёй спіне гаспадарку, фінансы, арганізоўваць працоўны працэс і адначасова займацца творчымі пытаннямі ва ўсім іх аб'ёме: шукаць і чытаць п'есы – фарміраваць рэпертуар, знаходзіць па ўсёй краіне рэжысёраў і сцэнографаў, камплектаваць трупу?! Дзіўна, але ёй гэта ўдаецца. Яна паставіла перад сабой і калектывам дакладную мэту – стварыць сучасны, сур'ёзны, разумны, з уласным тварам тэатр. І вельмі хутка трупа ёй паверыла. Першыя ж спектаклі, пастаўленыя запрошанымі спадарыняй Аленай пераважна маладымі рэжысёрамі, прымусілі і публіку, і крытыкаў, і журналістаў загаварыць пра Гомельскі маладзёжны не толькі ў абласным цэнтры, а і па ўсёй краіне. На прэм'еры да іх паехалі тэатралы са сталіцы. А такой прэсы, якую мае сёння гэты нядаўна ўсімі забыты тэатр, не маюць нават знакамітыя сталічныя калектывы.

Алена Маставенка.

За два гады тэатр стаў дыпламантам двух міжнародных тэатральных фестываляў – «М@ртКантакт» у Магілёве і «AndriyivskyFest» у Кіеве. Апафеозам адраджэння тэатра, яго шырокага прызнання стаў удзел летась у Нацыянальнай тэатральнай прэміі. Ажно тры спектаклі былі намінаваны на яе ў розных катэгорыях – «Эдып», «Ляцелі арэлі», «Метад». Апошні ж быў заслужана ўганараваны галоўнай тэатральнай прэміяй краіны як «найлепшы спектакль тэатра драмы малой формы». На паказах усіх трох спектакляў у Мінску быў аншлаг. Такое раптоўнае ўварванне гамельчукоў у абжытую тэатральнай элітай прастору можна ацэньваць нават як выклік.

Сцэна са спектакля «Каралева прыгажосці». Морын Фолан – В.Лагута. Мэг Фолан – Г.Анчышкіна.

Сакрэт поспеху – у ясным разуменні спадарыняй Маставенка таго, якім сёння павінен быць менавіта маладзёжны тэатр. Яна разам з калектывам будуе тэатр, арыентаваны найперш на гарадскую моладзь – адукаваную, адкрытую да дыскусій і разважанняў пра сучаснасць. Яны шчыра вераць у магчымасці тэатра сур'ёзнага, нават інтэлектуальнага, у тэатр сучасных формаў. Дырэктарка прынцыпова змагаецца з хваробай беларускага тэатра, якая перарасла ў эпідэмію, а менавіта: усведамленне, што, каб праіснаваць у складаных эканамічных рэаліях, тэатр мусіць найперш, а мо і толькі, забаўляць гледача. Менавіта таму ў пошуку пастаноўшчыкаў яна скіроўвае сваю ўвагу на маладых рэжысёраў, якія, дзякуй Богу, апошнімі гадамі ў Беларусі не толькі з'явіліся, але і маюць уласныя тэатральныя ідэі і паспелі цікава заявіць пра сябе на розных сцэнах. І як вынік – Гомельскі маладзёжны тэатр стаў адной з галоўных пляцовак краіны для іх творчага выяўлення.

**Віталя Краўчанку** цікавіць сучасная заходняя драматургія вострай праблематыкі і ўніверсальнага зместу. Ён спавядае філасофію псіхалагічнага тэатра, адштурхоўваецца ад яго класічных, традыцыйных формаў. На першым плане ў яго спектаклях акцёр. Гомельская публіка з энтузіязмам успрыняла пастаўленыя ім вострасацыяльныя драмы-трылеры «Метад» Жардзі Гальсерана (спектакль стаў у горадзе шлягерам, сыграны за няпоўныя два сезоны каля паўсотні разоў!) і «Каралева прыгажосці» Марціна Макдонаха.

**Юра Дзівакоў** ужо мае славу самага смелага рэжысёра-эксперыментатара краіны, якога найперш цікавіць экспрэсіўная форма, нярэдка на мяжы з эпатажам. У цэнтры яго пошукаў – сучасная інтэрпрэтацыя перадусім класічнай сусветнай драматургіі. Амаль кожны спектакль Дзівакова выклікае вострыя спрэчкі, а часам і скандалы. У рэжысёра ёсць адданая яму аўдыторыя ў сталіцы. Набыў ён яе і ў Гомелі з экстравагантнай пастаноўкай старажытнагрэчаскай трагедыі «OEDIPUS / Эдып».

**Дзяніс Паршын** на гомельскай сцэне паставіў сучасную п'есу айчыннага драматурга Канстанціна Сцешыка «Ляцелі арэлі». Спектакль адкрыта скіраваны на маладзёжную аўдыторыю, інтэрнэт-пакаленне з іх рок-кумірамі і з іх тыповымі псіхалагічнымі станамі. Форма пастаноўкі, яе жанр зразумелыя маладому гледачу нават на ўзроўні падсвядомасці.

Гэтыя чатыры спектаклі і вызначаюць дамінанту тэатра. Але на афішы разумна аддадзена даніна і так званаму камерцыйнаму тэатру. У рэпертуары некалькі камедый, сярод якіх вылучаюцца свежыя пастаноўкі заходніх шлягераў – «Дзіўная місіс Сэвідж» Джона Патрыка і «Bad Boys» Рэя і Майкла Куні. Пастаўленыя з добрым густам запрошанымі вопытнымі рэжысёрамі **Валянцінай Ераньковай** (Нацыянальны тэатр імя М.Горкага) і **Уладзімірам Пятровічам** (Магілёўскі абласны драматычны тэатр), яны паступова выжываюць з рэпертуару ўжо аджылыя «шлягеры».

Такой цікавай і збалансаванай афішы можа пазайздросціць любы сур'ёзны тэатр! І ў такім рэпертуары, з такой рознай рэжысурай, натуральна, трупа мае ўсе магчымасці цікава развівацца, павышаць свой прафесіяналізм. Гэта надзвычай актуальна сёння для тэатраў, якія працуюць у правінцыі. Сітуацыя склалася так, што цяпер сюды, дзе пры нікчэмных заробках, на якія цяжка пражыць, пры адсутнасці здымак у кіно, на тэлебачанні, іншых падпрацовак, якія ёсць у Мінску, не спяшаюцца ехаць выпускнікі стацыянарнага аддзялення Акадэміі мастацтваў. Тэатрам нярэдка даводзіцца браць у штат выпускнікоў культасветвучылішчаў ці проста артыстаў з самадзейнасці або нават з вуліцы, а пасля яны ўжо давучваюцца ў Акадэміі завочна. Таму праца з запрошанымі як вопытнымі, так і цікавымі маладымі рэжысёрамі становіцца для акцёраў школай. Такая ж сітуацыя і ў Гомельскім маладзёжным тэатры. Выключэнне тут хіба толькі найстарэйшая артыстка **Галіна Анчышкіна**, якая мае выдатную тэатральную адукацыю, атрыманую ў Маскве.

Вось так у невялікім тэатры, дзе ўсяго каля паўтара дзясятка артыстаў, фарміруецца цікавая трупа. Новае дыханне набыла і вопытная Галіна Анчышкіна. Яе ролю Мэг Фолан у «Каралеве прыгажосці» асабіста я лічу ўвогуле адной з самых яркіх на сучаснай сцэне Беларусі апошніх гадоў.

Упэўнена, дакладна, цікава пачалі працаваць маладыя **Валерыя Лагута, Яраслаў Кубліцкі, Дзмітрый Попчанка, Сяргей Арцёменка**. Апошні, праўда, нядаўна перабег у Гомельскі абласны тэатр, але працягвае іграць і ў Маладзёжным. Важна, што яны маюць магчымасць працаваць у рознай рэжысуры, розных жанрах і стылях. Там жа, дзе не хапае майстэрства ці паразумення з пастаноўшчыкам, іх ратуе шчырасць, апантанасць працай, задзірлівасць.

Але дарога да поспеху зусім не простая. Тэатру не хапае фінансавання. Квіткі вельмі танныя, памяшканне арандуецца, тэхніка дабітая, а датацыі нікчэмныя. Тым часам рэпертуар трэба пастаянна абнаўляць. А бюджэт адной пастаноўкі ў разы меней, чым дазваляюць сабе акадэмічныя тэатры. Вось тут і круціся…

Тым не меней з гэтага кола выкручваецца дырэктарка Маставенка. Першыя ж творчыя дасягненні дадаюць і ёй, і кіруемай ёю трупе перакананасці ў правільнасці абранага шляху, у тым, што сур'ёзны тэатр можа быць і жывым, і запатрабаваным нават болей, чым тэатр забаўляльны.

Завяршэнне сёлетняга тэатральнага сезона чакаецца не меней цікавым, чым два папярэднія. Рэжысёр Юра Дзівакоў ізноў звярнуўся да класічнай літаратуры, гэтым разам ён ставіць спектакль «Павятовы лекар» паводле апавядання Франца Кафкі. Дарэчы, у перакладзе на беларускую мову. Прэм'ера мае адбыцца ўжо ў сакавіку. Таксама ў сакавіку другі год запар, што рэдка здараецца ўвогуле, Гомельскі маладзёжны тэатр возьме ўдзел у Міжнародным фестывалі «М@ртКантакт» у Магілёве са спектаклем «Каралева прыгажосці». Квіткі, дарэчы, былі раскуплены за некалькі першых дзён продажу. А завершыць сезон тэатр прэм'ерай камедыі абсурду, вострай сатырай на сучаснае грамадства «Пачвара» (па-руску будзе называцца «Урод») нямецкага драматурга Марыуса фон Маенбурга ў пастаноўцы Віталя Краўчанкі. Выглядае, што зноў выправяцца на прэм'еры ў Гомель сталічныя тэатралы.

**Вячаслаў РАКІЦКІ.**

**Здымкі з архіва Гомельскага маладзёжнага тэатра.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Алена АНІСІМ:
# «Я веру, што ўсё магчыма!»

*Старшыня ГА «Таварыства беларускай мовы», дэпутат Палаты прадстаўнікоў Алена Анісім адказала на пытанні «Народнай Волі» наконт свайго магчымага ўдзелу ў будучай прэзідэнцкай кампаніі.*

– **Спадарыня Алена, цікава, а як вашы блізкія адрэагавалі на тое, што вы сабраліся балатавацца ў прэзідэнты?**

– Родныя браты і сыны ў мае справы асабліва не ўнікаюць. Але ў 2014 годзе, калі я таксама гаварыла пра прэзідэнцкія выбары, даволі спакойна паставіліся. Я нават не ўпэўнена, што мае сыны моцна цікавяцца палітыкай.

– **А муж? З яго боку якія каментары былі?**

– Муж змірыўся *(смяецца)*.

– **Вы з ім раіліся наконт выбараў?**

– Усё атрымалася вельмі спантанна. Прачытаўшы чарговую спасылку, у якой была спроба дыскрэдытаваць як маё імя, так і дзейнасць арганізацыі, я вырашыла адрэагаваць. І напісала, што нават калі б і не хацела ўступаць у найбліжэйшыя палітычныя кампаніі, то пасля такой раскруткі проста абавязана гэта зрабіць. А паколькі інфармацыя ў сацсетках распаўсюджваецца вельмі хутка, мне адразу пасыпаліся пытанні на гэтую тэму. І я ні з кім параіцца нават не паспела, і з мужам у тым ліку. Але, з іншага боку, мае мужчыны цэняць не толькі сваю свабоду, але і свабоду іншых. Таму ўсё нармальна.

– **Мне падаецца, прэзідэнцтва – гэта якраз несвабода.**

– Канешне, трэба шмат працаваць. Але мне да гэтага не прывыкаць.

Дарэчы, муж мне вельмі моцна дапамагаў у парламенцкую кампанію – і з паездкамі, і з усім астатнім. А прэзідэнцкая кампанія ад парламенцкай мала чым адрозніваецца. Хіба што канкурэнтаў больш.

– **Тры гады таму вы спачатку замахнуліся на крэсла кіраўніка дзяржавы, а потым адмовіліся ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах. Чаму?**

– У той час пасля падзей на Украіне ў нас таксама быў нейкі туман, ніхто не прымаў ніякіх рашэнняў, апазіцыя заціхла. І калі пачалі абмяркоўваць, хто з прадстаўнікоў нацыянальных сіл можа стаць лідарам, Зінаіда Бандарэнка, якой спачатку прапанавалі ўзначаліць гэты рух, назвала маё імя. І ў мяне на той момант не было магчымасці адступіць. Потым адбыўся кангрэс, і розныя палітычныя сілы, акрамя Партыі БНФ і сацыял-дэмакратаў, нас не прынялі. Потым з'явілася Таццяна Караткевіч, было трохі нязручна нам сапернічаць. Мы ўзважылі ўсе «за» і «супраць» і ў апошні момант адмовіліся ад прэзідэнцкай кампаніі, бо ў той сітуацыі яна нам мала што давала, мы не адчувалі моцнай падтрымкі. А ў будучай прэзідэнцкай кампаніі абавязкова трэба браць удзел. І працаваць на перамогу.

– **Але не выключана, што Таццяна Караткевіч таксама будзе балатавацца. Вы тады зноў знімецеся?**

– Мы зараз ездзім па розных гарадах і бачым рэакцыю людзей, якія нас падтрымліваюць. У адрозненне ад мінулага разу, калі многа было зроблена для таго, каб не дапусціць мяне да ўдзелу ў прэзідэнцкай кампаніі. Тады мы маглі нават ініцыяваць раскол у арганізацыі, таму і спынілі кампанію, заявіўшы, што выбары выйграць немагчыма, а значыць, няма чаго ў іх і гуляцца.

– **Сёння на форумах у інтэрнэце вас называюць адной з удзельніц кампаніі па легітымізацыі Лукашэнкі. А ў сацыяльных сетках нават нейкае галасаванне было: маўляў, калі б вы маглі выбіраць паміж Аленай Анісім і ліхтарным слупам за каго аддалі б свой голас? Вас усё гэта не крыўдзіць?**

– Не. Бо кожны такім чынам паказвае ўзровень сваёй выхаванасці. Таму гэта не мая праблема. Я ў сваім жыцці да ўсяго, што рабіла, ставілася адказна і сур'ёзна. І яшчэ я вельмі не люблю крыўдзіць іншых. Але падобныя заўвагі – неад'емная частка палітычнай кампаніі.

Калі нехта выбірае стабільнасць у выглядзе слупа – гэта таксама выбар. Але тады не трэба казаць, што я ўдзельнічаю ў масоўцы. Бо атрымліваецца, што ліхтар якраз падтрымліваюць тыя, хто галасуе не за Анісім, а за слуп.

– **Калегі па Авальнай зале неяк пракаментавалі ваша жаданне пайсці ў прэзідэнты?**

– Не. Але вітацца не перасталі.

– **Прадстаўнікі апазіцыі па-рознаму паставіліся да вашых амбіцый. Дарэчы, на праймерыз вас запрасілі?**

– Так, але будзем глядзець, што і як, ці патрэбна нам гэта.

– **Як вы ставіцеся да выбараў адзінага кандыдата?**

– Складана сказаць… Глядзіце, колькі кандыдатаў у прэзідэнты на Украіне – і ніхто не робіць з гэтага вялікай трагедыі! Мне падаецца, гэта чыста дэмакратычны падыход. Маеш сілы, каманду, адчуваеш, што здольны чэсна, без усялякіх хітрыкаў сабраць неабходныя 100.000 подпісаў – калі ласка!

– **Палітолаг Валерый Карбалевіч адзначыў: самы трагічны момант у тым, што мала хто з апазіцыі верыць у сваю перамогу на прэзідэнцкіх выбарах. А вы верыце?**

– Я веру ў тое, што канкрэтная сумленная праца прыносіць поспех. Я ў гэтым перакананая па жыцці. І калі штосьці не атрымліваецца, то гэта не таму, што табе ставілі падножкі. Часцей за ўсё гэта асабістая недапрацоўка.

Я веру ў тое, што ўсё магчыма. Бо калі людзі ў самых неспрыяльных умовах пераадольваюць цяжкія хваробы, то ўжо ў простым, звычайным жыцці магчыма нават тое, што на першы погляд здаецца нерэальным.

– **Але, пагадзіцеся, сапраўдных, дэмакратычных выбараў у краіне няма… Таму частка электарату ігнаруе іх.**

– Сапраўды, людзі не вераць у выбары, і многія не ходзяць – асабліва ў вялікіх гарадах. У рэгіёнах да гэтага ставяцца крыху інакш. Можна змяніць выбарчае заканадаўства, зрабіць яго ідэальным, але хто прасочыць за тым, каб яно выконвалася? Пытанне ж не ў добрых ці дрэнных законах, а ў іх выкананні.

– **Вы кантактуеце з Ганнай Канапацкай наконт законапраекта па змяненні Выбарчага кодэкса?**

– Мы кантактуем, але не па гэтым законапраекце.

– **Беларускія палітолагі Павел Усаў і Уладзімір Мацкевіч маюць меркаванне, што ад удзелу апазіцыі ў выбарах выйграе толькі дзеючы рэжым. Бо апазіцыянерам, як ні круці, даводзіцца гуляць па правілах улады.**

– Кожны мае права на свой пункт гледжання, асабліва калі ёсць аргументацыя – цвёрдая і пераканаўчая. На маю думку, апазіцыя губляе не ад таго, што гуляе па чыіхсьці правілах, а ад таго, што не прысутнічае ў грамадска-палітычным полі, умоўна кажучы, у рэальным сектары. Многія дзеячы апазіцыі ў свой час страцілі месца працы, а значыць, сёння яны выцеснены з легальнага поля дзейнасці і ад гэтага шмат што губляюць. Для людзей вельмі важна, каб тыя, хто прадстаўляе іх інтарэсы ў парламенце ці на пасадзе кіраўніка краіны, нечага дасягнулі, прайшлі праз нейкія пасады. Гэта важна для людзей. А ў апазіцыі на дадзены момант такога досведу няма. І ад гэтага, на маю думку, яна больш за ўсё губляе…

– **На ваш погляд, ці гатова сёння беларускае грамадства бачыць на пасадзе кіраўніка краіны жанчыну?**

– Я спецыяльна не вывучала гэтую тэму, але на першы погляд здаецца, што не гатова. Аднак, з іншага боку, калі некалі вылучалася Наталля Пятроўна Машэрава, у яе былі вельмі добрыя рэйтынгі. Таму мне здаецца, пытанне перш за ўсё ў асобе.

**Марына КОКТЫШ.**

### АД РЭДАКЦЫІ

Вы прачыталі інтэрв'ю спадарыні Алены Анісім. Ці згодны вы з яе пазіцыяй? Ці лічыце яе сур'ёзным прэтэндэнтам на ўдзел у прэзідэнцкіх выбарах альбо такім, які не мае шанцаў на перамогу? І наогул – якое ваша стаўленне да чарговых палітычных кампаній – парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў?

Пішыце, тэлефануйце…

СІТУАЦЫЯ

## Дзяніс УРБАНОВІЧ:
# «Не ўпершыню збіваюць…»

Больш за 8 месяцаў працягваецца пікетаванне рэстарана «Поедем, поедим» каля мемарыяла ахвярам сталінскіх рэпрэсій у Курапатах.

Як вядома, пратэстоўцы патрабуюць закрыцця гэтай забаўляльнай установы, але рэстаран працягвае работу. Не абыходзіцца і без здарэнняў. У мінулыя выхадныя аднаго з абаронцаў, **Дзяніса Урбановіча**, збіла машына.

*«Аўтамабіль ехаў у бок рэстарана,* – распавёў Дзяніс «Народнай Волі». – *Спачатку ён прыпыніўся, а затым вадзіцель рэзка націснуў на газ. Мяне зачапіла левым крылом, я адляцеў недзе на два метры. Упаў на галаву, перакруціўся некалькі разоў... Прыехала «хуткая», мяне забралі ў шпіталь, дзе аказалі першую дапамогу і абследавалі.*

*На шчасце, сур'ёзных траўмаў не аказалася (няма ні пераломаў, ні страсення мазгоў). Прыехалі супрацоўнікі ДАІ, і ўжо разам з імі мы ізноў паехалі ў Курапаты, дзе прайшоў следчы эксперымент. Пазней знайшлі вадзіцеля таго аўтамабіля, на яго склалі пратакол за тое, што ён пакінуў месца ДТЗ, а таксама ў яго забралі правы».*

Паводле слоў маладзёжнага актывіста, крымінальнай справы на чалавека, які яго збіў, заведзена не будзе.

*«Даішнікі патлумачылі, што сур'ёзных траўм у мяне няма, а значыць, на вадзіцеля будзе заведзена адміністрацыйная справа,* – працягвае суразмоўца. – *Тут прадугледжаны альбо вялікі штраф, альбо пазбаўленне права на кіраванне тэрмінам на 3 гады. Дарэчы, мне прапаноўвалі, каб я прымірыўся з гэтым вадзіцелем, але я адмовіўся. Сустрэнемся з ім у судзе. Гэта прынцыпова, бо абаронцаў Курапатаў не ўпершыню збіваюць».*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ВЕДАЙ НАШЫХ!

*Алімпійскі чэмпіён **Уладзіслаў Ганчароў** перамог на этапе Кубка свету па скачках на батуце ў Баку.*



У сінхронных скачках беларускі дуэт Уладзіслаў Ганчароў і **Алег Рабцаў** заняў другое месца, а ў спаборніцтвах сярод жанчын у сінхронных скачках першымі былі беларускі **Валянціна Багамолава** і **Ангеліна Хацян**.

***

*На адкрытым чэмпіянаце Бельгіі беларуская бар'ерыстка **Аліна Талай** упершыню выйшла на старт пасля траўмы і ўпэўнена перамагла.*




У верасні Аліна перанесла аперацыю, але зараз знаходзіцца ў выдатнай форме. Далей Аліну Талай чакае кантынентальны форум у закрытых памяшканнях, які пройдзе з 1 па 3 сакавіка ў Глазга.

***

*Фрыстайлістка **Аляксандра Раманоўская** выйграла этап Кубка свету па фрыстайле ў Маскве.*



Напярэдадні беларуская спартсменка перамагла на чэмпіянаце свету.

***

Беларуская спартсменка **Вольга Мазуронак** стала пераможцай марафону, які прайшоў у Ганконгу.

Вольга ўстанавіла новы рэкорд гэтых спаборніцтваў – 42-кіламетровую дыстанцыю яна прабегла з вынікам 2:26:13.

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

## Виктория АЗАРЕНКО:

# «Давно уже не была дома»

*Известная теннисистка рассказала о себе и о том, что нужно белорусскому теннису.*



Не так давно Виктория Азаренко побывала в Минске, что случается нечасто. В основном она живет и тренируется в США, принимает участие в турнирах, много ездит по миру.

*«Очень хотелось побыть с семьей,* – рассказала спортсменка tennis.by. – *В последнее время немножко заболела, такое со мной бывает, особенно зимой. Вирус какой-то, но сейчас чувствую себя уже лучше».*

Спортсменка считает, что сейчас в белорусском теннисе (в первую очередь в женском) «очень хорошая тенденция движения вверх».

*«И она не должна останавливаться,* – говорит Вика. – *У молодых игроков, таких как Арина Соболенко и Саша Саснович, тоже есть своя задача – както тянуть это все вверх. Потому что у меня была задача не только стать успешным игроком, но и молодым помогать. Считаю, что я проделала неплохую работу, и буду продолжать это делать. По завершении своей карьеры для меня будет важно то, какой вклад я внесла в развитие нашего вида спорта.*

*А вообще, считаю, что теннисная инфраструктура у нас на высоком уровне, если сравнивать с Европой. Даже мой тренер приезжал и сказал, что залы и теннисные корты в очень хорошем состоянии. Хотелось бы больше внимания уделять физподготовке, все-таки теннис сейчас более силовой. Вот именно это можно добавить еще в теннисных центрах».*

Кроме того, Азаренко рекомендует больше работать с зарубежными тренерами.

*«Нужно приглашать зарубежных специалистов, а также чтобы наши тренеры тоже набирались опыта вне Беларуси,* – отмечает бывшая первая ракетка мира. – *Это очень важно. Хотелось бы, чтобы появилось больше аналитических и тактических конференций, практики для игроков. У нас есть очень хорошая база, но это все можно развернуть и улучшить, особенно в плане физической подготовки и работы с зарубежными тренерскими кадрами. Специальная теннисная подготовка должна повыситься в уровне».*

В ближайших планах Виктории Азаренко сыграть на турнирах в Акапулько, Индиан-Уэллсе и Майами. Правда, как говорят, звезд с неба спортсменка пока не хватает. После рождения ребенка и длительной судебной тяжбы с бывшим бойфрендом теннисистка сейчас находится в стадии «возвращения в прежнюю форму». Удастся ли? Время покажет.

**Алесь СВЕТЛАНИЧ.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

Алесь СІВЫ



# Не страляйце ў піяніста!

У чэмпіянаце Кантынентальнай хакейнай лігі мінскаму «Дынама» засталося правесці тры матчы. 20 лютага «Зубры» згуляюць у гасцях з падмаскоўным «Витязем», 22 лютага – з фінскім «Ёкерытам», пасля чаго – на адпачынак. Не сказаць, каб на заслужаны, бо перадапошняе месца ў сваёй канферэнцыі – гэта, відаць, не той вынік, на які разлічвала кіраўніцтва клуба на пачатку сезона.

*«Ніякіх змен у штатным раскладзе ХК «Дынама-Мінск» у бліжэйшы час не будзе,* – казаў у верасні мінулага года старшыня назіральнай рады клуба **Ігар Шуневіч**. – *Каманда гуляе нядрэнна і ўпэўнена. Нашмат мацней, чым у мінулым сезоне. Няўдалы старт можна патлумачыць рознымі прычынамі. Мне таксама хацелася б больш перамог. Мы зрабілі высновы з папярэдніх матчаў з падрыхтаванымі сапернікамі. Упэўнены, што перамогі будуць і ў бліжэйшы час. Каманда да гэтага падрыхтавана і фізічна, і маральна».*

Праўда, аптымізм Шуневіча не вельмі падзяляў Аляксандр Лукашэнка, які задаўся падчас сустрэчы са старшынёй назіральнай рады клуба філасофскім пытаннем: *«Як яны думаюць жыць і працаваць далей? Неяк «калбасіць» каманду з пачатку года».*

Зараз ужо дакладна можна сказаць, што словы Ігара Шуневіча наконт таго, што *«перамогі будуць, і ў бліжэйшы час»*, аказаліся пустым гукам, бо «калбасіла» каманду не толькі на пачатку года, а ўвесь сезон.

І Андрэй Сідарэнка, які ў лістападзе змяніў на пасадзе галоўнага трэнера «Дынама» Гордзі Дуаера, не стаў тым чараўнікам з чароўнай палачкай, па ўзмаху якой жаба ператварылася б у прынцэсу. І той самы Сідарэнка зараз шчыра прызнаецца, што фізічныя кандыцыі ігракоў практычна на нулі.

Гэта значыць, што фактычна правалілі падрыхтоўку да сезона, хаця нам і спрабавалі павесіць на вушы локшыну: маўляў, *«каманда да перамог падрыхтавана і фізічна, і маральна».*

Але чарговы правал мінскага «Дынама» – гэта яшчэ паўбяды. Вось вылет зборнай з элітнага дывізіёна – лічыце, нацыянальная трагедыя, калі сыходзіць з таго, што пэўныя асобы ставяцца да гэтага віду спорту з асаблівым імпэтам. І некаторыя набліжаныя да ўлады хакейныя дзеячы ўжо адчулі, што ў паветры запахла смажаным. Могуць і фінансаванне абрэзаць.

І сёння не пазайздросціш Андрэю Сідарэнку, які галоўны трэнер не толькі «Дынама», але і зборнай, бо ён стаў у пэўным сэнсе закладнікам сітуацыі. Я добра ведаю Андрэя Міхайлавіча яшчэ з 1990-х гадоў, упэўнены ў яго прыстойнасці і працавітасці, але, на жаль, не ўсё ў яго руках. Пакуль некаторыя «пілавалі» бюджэтныя грошы, якія ў хакей укідваліся мяхамі, зборная апынулася ў тым месцы, пра якое не ўспаміналa ўжо 15 гадоў. І калі Сідарэнка не выцягне каманду ў эліту, то найперш удар прыйдзецца трымаць яму. Упэўнены, пра тых, хто давёў зборную да такога стану, асабліва ўспамінаць не будуць.

Але не будзем маляваць карціну толькі ў цёмных колерах. Найперш мяне радуюць балельшчыкі, якія ў Беларусі адны з самых лепшых. І на «Мінск-Арэну» народ працягвае хадзіць даволі масава, нягледзячы на тое, што каманда не радуе. І ў зборную многія вераць і падтрымліваюць яе і ў радасці, і ў горасці. Таму, як кажуць: не страляйце ў піяніста, ён іграе, як умее.

А мы таксама будзем глядзець у будучыню з аптымізмам. Асабіста я веру, што ў Андрэя Сідарэнкі ўсё атрымаецца.

КАНФУЗ

# Па вераб'ях!

*Беларускія біятланісты не даехалі да фінішу.*

У мінулую нядзелю тых беларускіх балельшчыкаў, якія вырашылі паглядзець змешаную эстафету на этапе Кубка свету па біятлоне ў амерыканскім Солт-Лейк-Сіці, чакала поўнае расчараванне.

На першых двух этапах за зборную Беларусі беглі **Максім Варабей** *(на фота)* і **Дзмітрый Лазоўскі**, і хлопцы зрабілі ўсё магчымае, каб **Дар'я Юркевіч** і **Ганна Сола** ў гэты дзень адпачылі.




Пасля чатырох агнявых рубяжоў Варабей і Лазоўскі на дваіх настралялі пяць штрафных кругоў і занялі стабільнае апошняе месца. А пасля таго, як беларусы сталі адставаць ад лідараў на цэлы круг, каманду наогул знялі з дыстанцыі, і да дзяўчат справа наогул не дайшла.

У такой сітуацыі можна з гумарам казаць пра джэнтльменскі ўчынак з боку спартсменаў. Але гэта было б смешна, калі б не было так сумна.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

НАКАНУНЕ СОБЫТИЯ

# Маэстро Анисимов бросит публику на амбразуру



Гениальный Бетховен был несчастлив в любви. Влюблялся он неоднократно, но никто из юных дев так и не разделил с ним супружеское ложе – хотя флиртовали многие. Возможно, поэтому композитор с таким трепетом и тщанием создавал свою оперу «Фиделио», главная героиня которой – самоотверженная женщина, бросившая все силы на спасение мужа. Ему такую спутницу жизни встретить было не суждено, и тяжкие думы об этом, возможно, стали родником для творчества. Как считают критики, опера «Фиделио» – любимое сочинение Бетховена. Он писал ее одиннадцать лет, и до сих пор существуют три редакции этого очень красивого бетховенского сочинения.

Сегодня «Фиделио» – весьма востребованная опера. В сезон дается более 500 спектаклей по всему миру. Она звучит чаще, чем «Манон Леско» Пуччини, «Пиковая дама» Чайковского или «Лоэнгрин» Вагнера. Но у нас это сочинение в Большом театре не ставилось никогда, а в филармонии не исполнялось уже очень давно, примерно лет десять.

И не прозвучало бы еще столько же, если бы не маэстро Анисимов. Он любит бросать осторожную белорусскую публику на амбразуру острых чувств и неизведанных эмоций. В ближайшую пятницу Государственный академический симфонический оркестр под управлением маэстро исполнит в Белгосфилармонии два отрывка из «Фиделио»: увертюру, а также сцену и арию Леоноры – солистка Ирина Крикунова.

В творческом багаже певицы Крикуновой это произведение стоит особой строкой: однажды она исполняла партию Леоноры на шпалах лагеря для политзаключенных «Пермь-36». Теперь-то, конечно, лагерь – музей истории политических репрессий. Но шпалы там остались настоящие, тем более лагерь был закрыт сравнительно недавно, в 1988 году. И именно там, в живых декорациях, английский режиссер Майкл Хант и поставил бетховенскую оперу «Фиделио» в 2010 году. Публику в тот вечер встречали «охранники» (переодетые билетеры). Но в бок, как рассказывает Александр Михайлович, подталкивали довольно реалистично. В общем, обстановка соответствовала трагическому духу великого бетховенского произведения, главная тема которого – борьба против насилия и тирании.

В Белгосфилармонии шпал на сцене не будет, Ирина Крикунова выйдет не в брутальном костюме воительницы, а в концертном наряде, коих у нее в гардеробе немалое количество. Но дух борьбы за спасение человечества мы ощутим сполна, уж это нам маэстро Анисимов обещает. Тем более что в концерте примет участие еще один известный солист, пианист Александр Музыкантов. Он также исполнит колоссальное сочинение Бетховена – концерт «Император». А завершится симфонический вечер все-таки Чайковским, самым любимым композитором маэстро Анисимова, симфонией №6 «Патетической». В общем, вечер обещает быть грандиозным.

Потом, конечно, будут долгие аплодисменты и цветы – как всегда на концертах этого дирижера. Не могу не заметить: публика почти всегда преподносит маэстро конфеты, книги собственного сочинения, картины. А однажды прямо на сцене ему подарили красиво упакованную куриную руляду – почитатели его таланта оказались работниками частного мясного магазинчика. Александр Михайлович был тронут необычайно: он всю свою творческую жизнь посвятил тому, чтобы музыка собирала в филармонию людей совершенно разных профессий. В Минске это сбылось практически стопроцентно.

**Елена МОЛОЧКО.**

З НАГОДЫ

# Хвалюючыя песні Чэслава Немэна

Павярніся лёс крыху па-іншаму – ён мог бы сядзець побач з намі, гледачамі, і слухаць уласныя песні. А можа, нават праспяваў бы іх сам, хоць бы пару радкоў. У гонар свайго 80-гадовага юбілею.

Але легендарнага спевака, кампазітара Чэслава Немэна няма ў жывых ужо 15 гадоў.

На шчасце, жывыя яго песні. І памяць пра яго таксама жывая – у тым ліку ў сэрцах беларусаў.

Бо нарадзіўся Чэслаў Выдрыцкі, які пасля ўзяў псеўданім Немэн (так па-польску гучыць назва ракі Нёман), у вёсцы Старыя Васілішкі на Гродзеншчыне. Старажылы вёскі дагэтуль беражліва захоўваюць успаміны, як таленавіты хлопчык спяваў у касцельным хоры і бегаў у савецкую школу, а потым нават паступіў у Гродзенскае музычна-педагагічнае вучылішча, пакуль у 1958 годзе не пераехаў з бацькамі ў Польшчу. А калі б не пераехаў, цалкам магчыма, адправіўся б наўпрост у сібірскую ссылку – і свет мог ніколі не пачуць яго ўнікальнага голасу.

Сёння ў Старых Васілішках працуе музей Немэна – у доме, дзе ён жыў. Менавіта сюды ён прымчаўся на таксі з Масквы, куды, будучы ўжо музыкантам з сусветным імем, прыязджаў у сярэдзіне 70-х гадоў мінулага стагоддзя на гастролі. Зрэшты, многім мінчанам таксама пашчасціла паслухаць геніяльнага рок-музыканта – у 1976 годзе ён выступаў з канцэртам у Палацы спорту. І якім жа адкрыццём сталі для мінскай публікі яго песні!

У гонар 80-гадовага юбілею легендарнага спевака ў кінатэатры «Цэнтральны» ў Мінску прайшоў паказ дакументальнага фільма «Сон пра Варшаву», створанага польскім рэжысёрам Кшыштафам Магоўскім. Спецыяльна для беларускіх гледачоў стужка была перакладзена на беларускую мову, у ёй шмат архіўных матэрыялаў і фотаздымкаў, у тым ліку даваеннага і пасляваеннага перыяду жыцця Немэна ў Беларусі.

Перад дэманстрацыяй фільма перад гледачамі выступіў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Польшчы ў Беларусі Артур Міхальскі. Журналістка Вера Савіна, якой пашанцавала ў 1986 годзе ўзяць інтэрв'ю ў рок-музыканта, падзялілася сваімі ўражаннямі. А потым загучалі любімыя многімі пакаленнямі гледачоў неўміручыя хіты пра каханне, надзею, лёс...

**Людміла СЯЛІЦКАЯ.**



Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 18.02.2019 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 060 экз. Заказ № 526.

